Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4784) 5 верасня 2014 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК

# Заслаўе-2014

# Дзень беларускага пісьменства



Фота Анатоля Клешчука

# Кніга як каштоўнасць



**Напярэдадні Дня беларускага пісьменства Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Станіславаўна Ананіч дала эксклюзіўнае інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва».**

**— Міністэрства інфармацыі заўжды бярэ на сябе асноўны клопат у падрыхтоўцы Дня беларускага пісьменства — нядзіўна, што кожнае свята адметнае і непаўторнае. Нязменная — увага да літаратараў. Ці лічыце Вы неабходным больш шырокі ўдзел пісьменнікаў і іх прадстаўленне ў СМІ нашай краіны?**

— У святкаванні Дня пісьменства заўжды прымаюць удзел найлепшыя беларускія творцы. І тое, што ўзнагароджанне пераможцаў рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор штогод адбываецца менавіта на свяце, гаворыць пра вялікую ўвагу да літаратараў з боку дзяржавы і грамадства, пра падтрымку іх на самым высокім узроўні.

У правядзенні мерапрыемстваў па прапагандзе кнігі і чытання мы цесна супрацоўнічаем з рэдакцыйна-выдавецкай установай «Выдавецкі дом «Звязда», Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Літаратары заўжды гатовыя паехаць у школу, выступіць у бібліятэцы, ва ўстановах культуры. А гэта не толькі прыемна чытачу, але і карысна для творцы, бо дае апошняму магчымасць сустрэцца са сваёй аўдыторыяй. Такая праца актыўна вядзецца ў рэгіёнах: арганізуюцца чытанні, канферэнцыі, творчыя імпрэзы. За гэта можна толькі падзякаваць — за актыўную прапаганду мастацкага слова, прыгожага пісьменства.

Згадаем акцыю «Маміна казка», якая, дарэчы, праводзілася сумесна з Беларускім саюзам жанчын, калі была выдадзена адна з лепшых кніг казак. Падчас акцыі вядомыя літаратары, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі міністэрства наведвалі дзіцячыя дамы, чыталі і дарылі кнігі дзецям. Гэтым летам па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі вельмі плённа прайшла акцыя «Лета з добрай кнігай». Хацелася б, каб найперш самі літаратары больш актыўна шукалі арыгінальныя формы працы з чытачом, у рэшце рэшт, гэта будзе на карысць беларускай кнізе.

**— Адным з прыярытэтаў дзейнасці міністэрства з'яўляецца папулярызацыя кнігі і чытання сярод моладзі. Але ж сёння яна часцей выкарыстоўвае не папяровыя выданні, а электронныя, чытае кнігі ў інтэрнэце. Ці не трэба выдаўцам пераарыентавацца на электронныя і сеткавыя выданні, бо гэта больш перспектыўна?**

— Моладзь сапраўды часцей выкарыстоўвае электронныя кнігі, планшэты, разам з тым папяровыя выданні жывуць і будуць жыць, бо кніга — не толькі інфармацыя — гэта яшчэ і культурная з'ява, да стварэння якой спрычыніліся пісьменнікі, мастакі, дызайнеры... Электронная версія, я лічу, павінна дапамагаць прапагандаваць нашу літаратуру, але развівацца гэтыя дзве галіны мусяць паралельна, падтрымліваючы адна адну. Упэўнена, зацікавіўшыся ўзорамі творчасці пісьменніка, выкладзенымі ў інтэрнэце, чытач зацікавіцца і кнігай гэтага аўтара.

Не трэба забывацца і пра тое, што менавіта друкаваная кніга дайшла да нас праз стагоддзі. Упэўнена, у кнігі ёсць будучыня. Пра гэта сведчаць і паказчыкі выпуску літаратуры: толькі ў І паўгоддзі 2014 года ў Беларусі свет пабачылі больш за 6 тысяч найменняў кніг тыражом звыш 15 мільёнаў экзэмпляраў.

**— Захаванне гістарычнай памяці — яшчэ адзін клопат дня сённяшняга. Што асабліва хацелася б вылучыць са зробленага выдаўцамі па тэме 70-годдзя вызвалення Беларусі і будучага юбілею Вялікай Перамогі, 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны?**

Заканчэнне чытайце на стар. 2

# Кніга як каштоўнасць

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1**

— Зразумела, што тэмы нашай гістарычнай і патрыятычнай спадчыны не застаюцца па-за ўвагай выдаўцоў. Што ж да канкрэтных праектаў, то хацелася б найперш узгадаць такія кнігі, як «Партызанская зброя», «Генерал Корж. Невядомыя старонкі», «Я — Іван з Беларусі», «Пеўчыя 41 года» (Выдавецкі дом «Звязда»), «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны», «Маёй зброяй быў Т-34» (выдавецтва «Беларусь»), «Непераможныя. Дакументальная аповесць», «Мы гэтай памяці верныя», «1418 дзён Вялікай Айчыннай вайны», «Ніколі не забудзем», «Дарогі без слядоў» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). І гэта далёка не поўны пералік.

У рамках акцыі «Лета з добрай кнігай» мы сфарміравалі камплекты кніг ваенна-патрыятычнай тэматыкі для дзяцей і моладзі, якія актыўна набываліся аддзеламі адукацыі для школьных бібліятэк.

Юбілейная дата, якую сёлета адзначаюць ва ўсім свеце, стала нагодай для таго, каб нашы аўтары звярнуліся да тэмы Першай сусветнай вайны. Выдадзены некалькі цікавых, арыгінальных твораў: «Апошні прытулак салдата: сябры і ворагі смерцю паяднаны» (Выдавецкі дом «Звязда»), серыя «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны» (выдавецтва «Беларусь») ды інш.

**— Падчас Дня пісьменства ў Заслаўі пад эгідай Міністэрства інфармацыі традыцыйна адбудзецца «круглы стол» з удзелам замежных пісьменнікаў. Якія асноўныя формы міжнароднага супрацоўніцтва з аўтарамі, кнігавыдаўцамі Вы лічыце найбольш перспектыўнымі?**

— Формы супрацоўніцва павінны быць самыя розныя: і «круглыя сталы», і ўдзел у розных галіновых мерапрыемствах — выстаўках, кірмашах, форумах, канферэнцыях, і рэалізацыя сумесных выдавецкіх праектаў, якія аб'ядноўваюць літаратараў з розных краін. У 2013 годзе ў Выдавецкім доме «Звязда», напрыклад, пабачыла свет серыя «Сугучча сэрцаў», якая прадставіла шырокаму чытачу творчасць аўтараў краін СНД у Беларусі і прэзентавала айчынных пісьменнікаў за межамі нашай дзяржавы. Сёлета працягам серыі стала выданне альманаха «Сугучча». Упэўнена, што ў гэтага праекта добрая перспектыва развіцця ў міжнароднай літаратурнай прасторы.

**— Як выглядае Беларусь кніжная ў свеце, паказваюць і вынікі міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД: нашы выданні заўжды атрымліваюць тут самыя высокія ўзнагароды. У чым, на Вашую думку, галоўная адметнасць айчыннай кнігі?**

— Беларуская друкаваная кніга мае глыбокія карані: ад «Бібліі» Францыска Скарыны і да твораў Купалы, Мележа, сучасных аўтараў. Наогул, трэба актыўна пашыраць межы міжнароднага супрацоўніцтва, каб беларуская кніга мела свой працяг і на іншых мовах. Дарэчы, у наступным годзе мы чакаем да ўдзелу ў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы ў якасці ганаровага госця Кітайскую Народную Рэспубліку. Будзем сустракаць літаратараў з Кітая і разам плануем правесці беларуска-кітайскі літаратурны форум. Вядома ж, галоўнае ў гэтым праекце — пашырэнне магчымасці перакладу лепшых літаратурных твораў. Калі ж зірнуць на мастацкі бок, варта адзначыць, што нашыя выдавецтвы імкнуцца ствараць арыгінальныя кнігі, якія не будуць выглядаць як браты-блізняты на паліцах кнігарняў. У кожнай — сваё непаўторнае аблічча, свой, так бы мовіць, мастацкі густ. Калі бяру ў рукі беларускую кнігу, адчуваю цяпло ад яе старонак.

Дарэчы, сёлета на міжнародным конкурсе «Мастацтва кнігі» беларускія выдаўцы атрымалі дзевяць дыпломаў, тры з якіх — першай ступені. Гэта другі вынік сярод усіх краін СНД.

На свяце беларускага пісьменства ў Заслаўі ў павільёне «Кнігі і прэса Беларусі» будуць прадстаўлены нашы лепшыя выданні — пераможцы міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. І вельмі важна — свята будзе спрыяць замацаванню ў грамадстве духоўна-гістарычных каштоўнасцей беларускага народа, адной з якіх з'яўляецца кніга.



*Фота БелТА*

# Да Святыняў

Навукова-асветніцкая экспедыцыя «Дарога да Святыняў» з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга — важная падзея ў падрыхтоўцы да Дня беларускага пісьменства. У складзе экспедыцыі — вядомыя пісьменнікі, дзеячы навукі і культуры, журналісты, прадстаўнікі міністэрстваў, ведамстваў, грамадскіх аб'яднанняў і духавенства.

Сёлетні маршрут экспедыцыі пачаўся 3 верасня ў Мінску ад Свята-Духава кафедральнага сабора. Адсюль удзельнікі маршруту накіраваліся ў Баранавіцкі раён на Святое Поле каля вёскі Загор'е.

— У чацвер мы наведалі храмы ў Навагрудскім і Лідскім раёнах, у тым ліку Свята-Елісееўскі Лаўрышаўскі мужчынскі манастыр, асвяцілі Благадатным Агнём падвор'е Свята-Благавешчанскага жаночага манастыра, — распавяла кіраўнік экспедыцыі, пісьменніца, дацэнт БДУКіМ, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Ніна Загорская. — Сёння і заўтра нас чакаюць у Валожыне, вёсцы Палачаны і гарадскім пасёлку Радашковічы Маладзечанскага раёна, пасёлках Калодзішчы і Ждановічы Мінскага раёна.

У нядзелю, 7 верасня, удзельнікі экспедыцыі прыбудуць да Сабора Беларускіх святых, дзе пройдзць малебен, перадача Благадатнага Агню на свечкі прыхаджан і будзе закладзены Сад Малітвы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Мікалай ЧАРГІНЕЦ:
# «Мы — патрэбныя!»

**Напярэдадні свята старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі атрымаў ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь». Але што азначаюць званні для літаратараў? З гэтага пытання распачалася гутарка карэспандэнта «ЛіМа» з Мікалаем Чаргінцом.**



— Узнагарода, званне — гэта не толькі пэўная ацэнка зробленага, але і вялікая падтрымка. Таму радуе, што за мінулы год адразу некалькі членаў СПБ атрымалі ганаровыя званні, ордэны, медалі. Аднак галоўная ўзнагарода — запатрабаванасць, тое, што нас чытаюць: згодна з апытаннем, праведзеным у бібліятэках краіны, за два гады кнігі 48 нашых літаратараў запрошваліся больш як два мільёны разоў! На жаль, чытач не заўсёды ведае ў твар любімага аўтара, таму пісьменнікі адгукаюцца на прапановы сустрэцца ў школе, у бібліятэцы. У мяне сотні пісьмовых запрашэнняў, а колькі сустрэч з аўтарамі адбываецца па вуснай дамоўленасці! Мы паспрабавалі палічыць: атрымалася, што члены нашага саюза за год выступаюць 15 — 20 тысяч разоў у самых розных кутках краіны. Дарэчы, цешыць, што творцы выказваюцца не толькі пра літаратуру, але і наконт спраў грамадскіх, палітычных. Што да пытанняў маралі, выхавання, якія вельмі актуальныя ў сучасным свеце, — гэтыя тэмы блізкія любому творцу. Так, я ўпэўнены, што мы — патрэбныя!

**— Ці задаволены Вы зробленым за мінулы год?**

— Пачну крыху здалёк. Пра літаратуру часта разважаюць людзі, якія не чытаюць. Я пераканаы, што на самым высокім узроўні патрэбны чалавек, які б аналізаваў новыя творы айчынных літаратараў, рабіў дайджэсты. Магчыма, менавіта за маю настойлівасць і ўпартасць у адстойванні інтарэсаў пісьменнікаў некаторыя чыноўнікі на мяне крыўдуюць, але, лічу, грош цана старшыні, які не клапоціцца пра свой саюз. Мы сапраўды захавалі ўсё добрае, што мелі: выдаём кнігі класікаў і моладзі, памятаем праўдзівыя творы Васіля Быкава і цудоўныя вершы Рыгора Барадуліна, не забываемся і пра тых, хто сёння працуе на літаратурнай ніве: Генадзь Пашкоў, Георгій Марчук, Уладзімір Гніламёдаў, Алесь Савіцкі, Анатоль Сульянаў і многія іншыя. Мы адстойваем пазіцыю літаратуры ў сучасным свеце, згадваем пра папярэднікаў і ствараем новы фармат пісьменніка.

**— Гэтыя творцы новага фармату — таленавітая моладзь — як яны прыходзяць да Вас?**

— Мы выбралі правільную тактыку. У нас ёсць традыцыйныя кірункі: секцыі паэзіі, прозы, драматургіі. Шмат апошнім часам з'явілася перспектыўных аўтараў у галіне краязнаўства, гістарычнай і гумарыстычнай літаратуры, перакладаў. Але мы разумеем, напрыклад, што нашаму грамадству трэба новыя песні. Менавіта таму ў спісе намінацый на лепшую кнігу года з'явілася яшчэ адна — за песенную творчасць. Яна аб'ядноўвае пісьменніка, кампазітара і выканаўцу. І вось — Іван Юркін, Алег Елісеенкаў і Анатоль Ярмоленка — стваральнікі дзясяткаў песень, якія гучаць падчас самых розных імпрэзаў — ад «Лістападу» да «Славянскага базару». Што ж да гісторыі, то апошнім часам гэтую дзялянку актыўна распрацоўваюць Іван Саверчанка, Вячаслаў Бандарэнка… Часам кнігі выклікаюць шмат спрэчак, але яны паказваюць праўду свайго часу — і вартыя ўжо гэтым, хаця тое, канечне, не адзіная іх вартасць (усміхаецца). Што да маладых, то клопат пра іх творчы лёс — адзін з асноўных у СПБ. Пастаянна праводзім конкурсы сярод дзяцей і моладзі, выдаём першыя кніжкі, хай маленькія, тоненькія, але гэта — наш задзел на будучыню! Акрамя таго, вялікі плюс у тым, што моладзевыя літаб'яднанні па школах краіны ўзначальваюць, у асноўным, члены саюза, таму яны могуць адразу выбраць лепшых, каго будуць скіроўваць на далейшыя заняткі творчасцю, а потым малады пісьменнік змажа атрымаць персанальную стыпендыю ад СПБ, дапаможам з кнігай, а з ёй — можна і ў нашыя шэрагі!

**— Калі казаць пра выданне кнігі, тым больш першай, якая з'яўляецца, бадай, галоўнай падзеяй у жыцці творцы, хто Вам дапамагае?**

— Зразумела, што дзяржаўныя выдавецтвы не могуць ахапіць усіх пісьменнікаў краіны, але нам пайшлі насустрач выдавецтвы «Харвест» і «Чатыры чвэрці» — мы ім вельмі ўдзячныя. Да слова, і пра інтэрнэт не забываемся: больш за 200 нашых членаў прадстаўлена ў сеціве.

**— Ці выклікае творчасць аўтараў-беларусаў цікавасць за мяжой?**

— Так, нашы літаратары актыўна перакладаюцца. Акрамя таго, СПБ заключыў дамовы з 28 пісьменніцкімі арганізацыямі розных краін. У Турцыі і Японіі ўпершыню былі выдадзены творы беларускіх аўтараў.

**— У чым жа роля Дня пісьменства для літаратараў?**

— Для іх і для мяне асабіста Дзень пісьменства — гэта не толькі свята літаратуры, але і пэўнае падсумаванне дзейнасці за год. Да таго ж, удзел кіраўніцтва краіны, абласцей, раёнаў у святкаванні і ўзнагароджванні літаратараў паказвае зацікаўленасць дзяржавы ў творцах, падтрымку кнігі і чытання. «ЛіМ» невыпадкова прысвячае святу цэлы нумар — гэта падзея ў жыцці ўсяго грамадства. А пісьменнікі якраз і павінны бачыць і аналізаваць жыццё ва ўсіх яго праявах.

**— Але ж не толькі святы ў календары старшыні СПБ — трэба і праблемы вырашаць... Якія?**

— Так, у нас ёсць унутраныя праблемы, але яны хутчэй грунтуюцца на завышанай самаацэнцы некаторых пісьменнікаў, таму я заўжды заклікаю калег найперш да сціпласці ў ацэнцы ўласнай творчасці — няхай вартасць кнігі вызначыць чытач альбо прафесійнае журы, калі гэта конкурс. Трэба, зразумела, дбаць і пра выпрацоўку крытэрыяў ацэнкі сучаснага твора. Дарэчы, у часы БССР існавала практыка напрыканцы года публікаваць у газеце вынікі анкеты-апытання з вызначэннем тузіна найбольш папулярных аўтараў. Такім чынам і сёння можна было б змагацца з «комплексам геніяў» у некаторых нашых аўтараў.

**— Але ж для гэтага трэба «раскручваць» сапраўды таленавітых!**

— Менавіта. І дзякуй Генадзю Браніслававічу Давыдзьку за стварэнне тэлеканала «Беларусь 3», дзе нарэшце творцам далі магчымасць выказацца. Хацелася б, канечне, каб літаратараў часцей запрашалі і на «круглыя сталы» ў прамым эфіры, каб яны маглі выказаць сваю думку падчас ток-шоу, дыскутаваць не толькі на калялітаратурныя тэмы. Калі творцы ўдзельнічаюць у падобных праграмах нароўні, скажам, з палітычнымі дзеячамі, то слова пісьменніка набывае адметную вагу.

**— Як яшчэ плануеце падтрымаць творцаў у юбілейны для саюза перыяд? Што пажадаеце сябрам напярэдадні свята?**

— Раскрыю тайну. Мы падрыхтавалі прапановы на стварэнне Прэміі Урада Рэспублікі Беларусь. Прэм'ер-міністр нашай краіны Міхаіл Уладзіміравіч Мясніковіч ужо выказаў прынцыповую згоду па гэтым пытанні.

У сувязі з Днём беларускага пісьменства і 80-годдзем СПБ зычу калегам удач у творчасці і вялікага ўнутранага задавальнення ад зробленага. А яшчэ таго адметнага літаратарскага шчасця, калі твор, у які ўкладзены сэрца тваё і душа, падабаецца чытачу. Асобна вінашу пераможцаў сёлетняга конкурсу на лепшую кнігу 2013 года і дзякую ўсім арганізатарам цудоўнага свята ў старажытным Заслаўі.

**Гутарыла Раіса СІНЯЎСКАЯ**

# Вітаем, пераможцы!

**Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі пройдзе цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў конкурсу «Лепшы твор года-2013».**

У галіне паэзіі першай прэміяй уганараваны Аляксандр Быкаў (кніга «За межы круга»), другой — Уладзімір Шугля за зборнік «Чацвёртае вымярэнне», трэцяй — Вольга Сакалова за кнігу «Калыханка для надзеі». Дыпломамі Саюза пісьменнікаў Беларусі — Людміла Клачко за кнігу «На пару слоў…» і Святлана Быкава за зборнікі «З чыстага ліста» ды «З рукі выпускала сініцу». Сярод празаікаў 1-е месца прысуджана Алесю Савіцкаму за раман «Обаль», 2-е — Міледзію Кукуцю за аповесць «На сёмым небе», 3-е — Юрыю Татарынаву за раман «Суджаная страсць караля Міндоўга».

З дзіцячых пісьменнікаў перамагла Таццяна Сівец з кнігай «Куды прапала малпа Маня?», другая прэмія — у Алены Туравай за выданне «Кіндэрвілейскі прывід», трэцяя — у Алены Міхаленка за кнігі «Таямніцы бабулінага клубка», «Падарунак для Хрыста», «Ластаўка».

Пераможцай у галіне крытыкі і літаратуразнаўства прызнаны Яўген Гарадніцкі (за серыю літаратуразнаўчых артыкулаў).

У галіне краязнаўства 1-е месца Аляксандру Валковічу прынёс альманах «Астрамечаўскі рукапіс».

З ліку публіцыстаў першай прэміяй адзначаны Уладзімір Навумовіч за вучэбны дапаможнік для навучэнцаў устаноў сярэдняй спецыяльнай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі «Беларуская літаратура».

1-е месца ў галіне прыгодніцкай літаратуры заняў Анатоль Андрэеў з аповесцю «Сусвет не месца для суму». Дыплом лаўрэата атрымае Пётр Сямінскі за кнігу «Сузор'е фарфоравых шчанят».

У жанры перакладу першай прэміяй адзначаны Андрэй Цяўлоўскі за перастварэнне па-руску кнігі вершаў Змітрака Марозава «Малітоўнаю матчынай мовай...», Дыпломам лаўрэата конкурсу — Вольга Раўчанка за пераклады асобных твораў замежных пісьменнікаў на рускую мову для кнігі «OROBORO».

За зборнік песень для дзяцей і юнацтва «Васільковая краіна» першай прэміяй у галіне песеннага жанру ўганараваны Іван Цітавец.

## Што значыць для вас перамога ў конкурсе «Лепшы твор года-2013»?



**Алесь Савіцкі:**

— Раман «Обаль» пра гераізм моладзі ў Вялікай Айчыннай вайне. Сённяшні чытач шукае і знаходзіць у творы пэўнае сугучча сваім памкненням, намагаецца зразумець, чым жыло ваеннае пакаленне, чаму і як перамагло. Вельмі прыемна, што мая кніга адзначана грамадскасцю, у тым ліку і літаратурнай: гэта падзяка не толькі мне як пісьменніку, але і ўсім, хто змагаўся за Вялікую Перамогу.



**Яўген Гарадніцкі:**

— Лічу гэту пачэсную ўзнагароду не толькі прызнаннем маёй працы, але ў пэўным сэнсе і ўхвалою канцэпцыі, якой прытрымліваюся як даследчык роднай літаратуры. Яе сутнасць у тым, што літаратура — гэта перш за ўсё мастацтва. Менавіта такой якасцю, як мастацкасць, лепшыя творы сучасных аўтараў сугучныя вялікім літаратурным дасягненням мінулага стагоддзя. Кнігу, якая неўзабаве выйдзе ў выдавецтве «Беларуская навука», я так і назваў: «Літаратура як мастацтва».



**Аляксандр Быкаў:**

— Сёлета, якраз у Дзень беларускага пісьменства, я святкую 60-гадовы юбілей. Перамога ў гэтым конкурсе дадае стануючых эмоцый. Гэта адметны вынік маёй працы ў рэчышчы паэзіі, які, мяркую, дасць штуршок да напісання новых твораў і кніг.



**Іван Цітавец:**

— Узровень развіцця песеннага жанру ў нашай краіне сёння даволі высокі. У гэтым рэчышчы працуе шмат таленавітых паэтаў, кампазітараў, спевакоў. Таму першае месца ў конкурсе «Лепшы твор года-2013» для мяне не толькі радасць, але і вялікі гонар.



**Таццяна Сівец:**

— Дзень пісьменства — асноўнае «прафесійнае свята» беларускіх творцаў. І вартасць яго, на маю думку, якраз у тым, каб даведацца, чым жывуць, пра што пішуць калегі. Заўжды прыемна парадавацца за сябра, але чужая перамога — яшчэ і выдатны стымул запытацца ў сябе самога: «Ці я змагу лепш?» І, адказаўшы станоўча, магчыма, менавіта вы атрымаеце «Купідона» ў наступным годзе. Прынамсі, так сталася са мной…



**Андрэй Цяўлоўскі:**

— Асоба перакладчыка ў літаратуры звычайна непрыкметная — тым больш прыемна атрымаць гэтую ўзнагароду. У наш век размежавання прызначэнне мастацтва — аб'ядноўваць людзей, збліжаць культуры, і літаратурны пераклад, асабліва паэтычны, тут адыгрывае вельмі важную ролю. Перадаць верш, захаваўшы форму, змест і мелодыку арыгінала, скласці яго нанова, каб данесці не толькі да розуму, але і да сэрца іншамоўнага чытача ўсё тое, што ўклаў у твор аўтар, — вось «незаўважная» задача перакладчыка, вось тое, што я імкнуся рабіць. І ўзнагарода для мяне — не мэта і не вынік, але сведчанне таго, што работу гэту выконваю добра, што на правільным шляху.



**Уладзімір Навумовіч:**

— Перамога для мяне значыць вельмі многае: яна хвалюючая, глыбока кранае душу і дорыць вялікую радасць, жаданне працаваць. Лічу, што Дзень пісьменства — гэта прызнанне заслуг нашай вялікай літаратуры, ад Скарыны да Караткевіча, Танка і сучасных аўтараў — сапраўды чалавеказнаўчага мастацтва, шматжанравага, маштабнага паводле ахопу жыцця, па сутнасці, панарамнага, з шырокім дыяпазонам стылёвай разнастайнасці. Гэта прызнанне і спавядальнасці, філасафічнасці літаратуры, глыбіні пагружэння ў рэальнае жыццё народа, эстэтычную асалоду і хараство слова, якое ўвайшло ў свядомасць людзей, стала часцінкай іх светапогляду.



**Анатоль Андрэеў:**

— Добра, што мая творчасць ацэнена, але да перамогі стаўлюся спакойна. Упэўнены, што без элементаў фантастыкі ды прыгод сапраўдная літаратура абысціся не можа. Хоць самі па сабе гэтыя жанры, на мой погляд, у сучаснай літаратуры займаюць маргінальныя пазіцыі. Таму іншым разам іх прымаюць за чыстую манету, калі лічаць добрую літаратуру фантастыкай.



**Аляксандр Валковіч:**

— Альманах «Астрамечаўскі рукапіс» прымусіў яго ініцыятараў, спонсараў, аўтараў і чытачоў па-новаму зірнуць на мінуўшчыну і сённяшні дзень роднага краю. Перамога ў конкурсе на лепшы твор года — вялікае дасягненне, аднак не толькі маё асабістае як аўтара праекта, рэдактара ды ўкладальніка выдання, але і цэлага шэрагу людзей, што падтрымалі яго выпуск. Маю на ўвазе старшыню Брэсцкага райвыканкама Уладзіміра Мацуку, старшыню Брэсцкага раённага Савета дэпутатаў Людмілу Жуковіч, старшыню СПК «Астрамечава» Аляксея Скакуна і тых, хто зберагае, захоўвае і памнажае родныя традыцыі.

Падрыхтавала Яна ЯВІЧ

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**9 верасня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Уладзімірам Мазго, падчас якой пройдзе прэзентацыя яго кнігі для дзяцей «Завітала ў госці казка». Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**11 верасня** — *у публічную бібліятэку № 7 (вул. Пляханава, 97, к. 4) на прэзентацыю кнігі вершаў паэта і навукоўца Валерыя Максімовіча «Сярод блукаючых планет». Пачатак а 18-й гадзіне.*

## Сустрэнемся

Прэс-канферэнцыя, прысвечаная Дню беларускага пісьменства, адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры. Падчас яе намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч звярнуў увагу прысутных на асноўныя моманты святочнай праграмы. Гэта навуковая экспедыцыя «Дарога да святыняў», канферэнцыя «Заслаўскія чытанні», фінал конкурсу юных чытальнікаў Мінскай вобласці «Жывая класіка». Старшыня Заслаўскага гарвыканкама Святлана Карташова распавяла пра агульнагарадскія мерапрыемствы. Адзін са знакавых момантаў свята — адкрыццё помніка заснавальніку горада князю Ізяславу. Упершыню гасцей сустрэне дзіцячы парк культуры і адпачынку. Створаны новы турыстычны маршрут па гістарычным цэнтры Заслаўя. На свята прыедзе шмат літаратараў з Сербіі, Малдовы, Азербайджана ды іншых краін. У іх ліку — галоўны рэдактар расійскай «Роман-газеты» Юрый Казлоў. Пра гэта падчас прэс-канферэнцыі паведаміў намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Бадак, які таксама распавёў пра альманах «Сугучча» і навукова-папулярнае выданне «Заслаўе: на ростанях стагоддзяў».

Яна ЯВІЧ

## Ажывае гісторыя

Надрукаваць кнігу такой, як выдаваў яе Францыск Скарына, спрабавалі неаднойчы. Вынаходлівым майстрам удавалася паўтарыць асобныя лісты або часткі рарытэтных выданняў. І толькі амаль праз 500 гадоў палачанін Уладзімір Ліхадзедаў спазнаў усе таямніцы кнігавыдання знакамітага земляка-першадрукара.

Аўтарскі праект «У пошуках страчанага» Уладзіміра Ліхадзедава вяртае нас да вытокаў кнігавыдання. Цяжка недаацаніць яго навуковае ды асветніцкае значэнне. Каб адрадзіць старажытны спосаб вытворчасці кнігі, ён знаёміўся з літаграфіямі, вывучаў захаванае і створанае ў гэтым кірунку па вядучых музеях Еўропы. Пераймаў досвед старых друкароў (у тым ліку і за мяжой). У выніку разам з паплечнікамі сучасны друкар ажыццявіў надзвычай складаную справу: стварыў дзеючы станок XVI стагоддзя. І цяпер з дапамогай адліцай друкарскай формы на паперы можна вырабіць ліст з Бібліі Францыска Скарыны, створанай згодна са старажытнымі тэхналогіямі.

Яшчэ на адным станку, узору пачатку XX стагоддзя, можна надрукаваць гравюры і афорты на цынкавай пласціне. Не менш важнае дасягненне — магчымасць вырабу паперы з беларускага лёну, асаблівасці тэхналогіі якой аўтару праекта таксама давялося старанна вывучаць. Папяровая маса чэрпаецца з драўлянай ёмістасці спецыяльнай рамкай-сітам. Вось чаму папера называецца «чарпанай». Для яе вытворчасці выкарыстоўваецца толькі беларуская сыравіна. У апошні час шырокую папулярнасць атрымалі рэпрынтныя і факсімільныя выданні. Магчымасці сучаснай тэхнікі дазваляюць атрымліваць іх вялікім тыражом. Калі ж бярэш у рукі старажытны адбітак, маеш іншае адчуванне. Кожны з іх унікальны. Гэта стварае жывую карціну, і кніга набывае непераўзыдзеную каштоўнасць як вышэйшае дасягненне чалавечай культуры. Паспрабаваць сябе ў ролі кнігадрукара зможа кожны, хто завітае на Дзень пісьменства ў Заслаўе.

Алена СТЭЛЬМАХ

## Паэты не сумуюць

«Дыя@блог. P. S.» — так называецца новы тэлепраект, які пачынае выходзіць на тэлеканале «Беларусь 3» па суботах. Гэта не толькі своеасаблівае падсумаванне цыкла, але і расшыфроўка літар як «Паэт і Сатырык». Вядучымі новай праграмы сталі вядомы ўжо вядучы «Дыяблогу. Пра мову» паэт Навум Гальпяровіч і пісьменнік, аўтар пародый, эпіграм і сатырычных вершаў Анатоль Зэкаў.

Героі праграм, літаратары, будуць весці размову на тэмы, што тычаць не толькі літаратуры. Сярод першых удзельнікаў новага праекта — Сяргей Давідовіч, Уладзімір Ермалаеў, Васіль Ткачоў, Пятро Васючэнка. Хто не паспее паглядзець праграму ў суботу, будзе мець магчымасць уключыць паўтор у панядзелак раніцай.

Алена МАНЬКОЎСКАЯ

# Кароль у халаце

Вітаўта ў жаночым строі ўявіць няцяжка: легендарную гісторыю пра ўратаванне вялікага князя ведае кожны больш-менш старанны школьнік. Іншая справа — уявіць караля Міндоўга, суровага ваяра, айца ВКЛ, у хатнім халаце.

Пісьменнік Юрый Татарынаў, які працуе ў экзатычным жанры гістарычнай любоўнай аповесці, здолеў гэта зрабіць. Ён напісаў не пра таго Міндоўга, які скача па палях баёў у поўным узбраенні, але пра Міндоўга, абяззброенага жанчынай. Так з'явілася кніга «Суджаная страсць караля Міндоўга», у якую ўвайшлі тры творы — раман уласна пра Міндоўга, «Пасланік Алаха» і «Юрава гара».

Думаецца, спецыфічная назва кнігі выклікала ў вашым уяўленні шэраг іншых кніг, на вокладках якіх неадменна намаляваныя палкая жанчына і мужны мужчына. Сапраўды, як ужо адзначалася, у кнізе «Суджаная страсць караля Міндоўга»




галоўная роля адводзіцца не гісторыі і нават не самім героям, але пачуццю. Яно і ёсць галоўны герой, фон, аснова сюжэту і логіка развіцця дзеі. Своеасабліва бостава, якому аднолькава падуладныя і блазан, і кароль.

Тым не менш любоўныя аповесці з'яўляюцца яшчэ і гістарычнымі. З аднаго боку, гэта дазваляе аўтару выкарыстаць маляўнічыя дэкарацыі, на фоне якіх звычайныя, здавалася б, жарсці набываюць глыбіню і драматызм. Так, сачыць за тым, як недазволеныя пачуцці разбураюць лёс інжынера, не так цікава, як назіраць тое ж самае ў жыцці караля. З іншага боку, выкарыстанне гістарычнага матэрыялу спрыяе, на думку спадара Юрыя, папулярызацыі беларускай гісторыі.

...Міндоўг, збудаваўшы моцную і незалежную дзяржаву, губляе сына — князя Войшалка, які пастрыгся ў манахі, а затым і ўвогуле знік. Кароль у адчаі, але верны сябар князь Даўмонт ратуе становішча: ён прапануе валадару ажаніцца ў другі раз. А далей — класічнае *cherchez la femme*. Да гонару Міндоўга, даволі працяглы час ён трымаецца годна, але ў яго, канечне, не было ніякіх шанцаў — спецыфіка жанру.

Такія ж мужныя, вбітныя героі становяцца ахвярамі пачуцця і ў двух іншых раманах, якія ўвайшлі ў кнігу. «Суджаная страсць караля Міндоўга» — гэта спроба заняць пэўную нішу папулярнай, масавай літаратуры, пра што сведчыць і рускамоўнасць твораў. Сапраўды, чаму б беларусам замест прыгод брытанскага графа не пачытаць пра жыццё нашага караля?..

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Неад'емнае




Гаворку пра кнігу паэзіі Аляксандра Быкава «За межы круга» пачнём з цытаты: «Бараную, а затым бараню / Сваё поле жыццёвае...» У двух радках заключаная сутнасць усёй творчасці паэта, а пішa ён пра рэчы не проста традыцыйныя для беларусаў, а неад'емныя: вёска, сувязь з прыродай, адчуванне віны перад бацькамі, якія засталіся «там», любоў да зямлі (нават каханне перад гэтым пачуццём цьмянее), язычніцтва, якое арганічна спалучаецца з хрысціянствам — без намёку на знявагу да апошняга. Спалучэнне гэтае само па сабе паэтычнае, а калі яно кладзецца ў аснову верша (падсвядома, канечне), атрымліваецца беларуская паэзія.

Аляксандр Быкаў — паэт традыцыйны да апошняга: у форме, вобразных сродках, тэмах. Слова «традыцыйны» ўжыта не як звыклы эўфемізм да «нецікавы» ці «неарыгінальны». Натуральна, яму цяжка пазбегнуць паўтарэнняў ці самапаўтарэнняў, але калі, здавалася б, да звычайных, сто разоў бачаных слоў дакранаецца Паэзія, яны не могуць не адгукнуцца ў сэрцы чытача: «Адтуль жа ніхто не прыйшоў, / Каб збавіць ад вечнага болю. / Бясконцае поле крыжоў — /Яно не народзіць ніколі...»; «Зламалася нясцерпна-хрустка / Душа, як звонкая страла... / Вянцом няношаная хустка / Лягла паверх твайго чала».

Паэту, які жыве ў сучасным грамадстве — імклівым, часта бяздумным, безразважным — не заўжды ўдаецца трымацца наводдаль ад паверхневага. Але калі Аляксандр Быкаў вяртаецца да вытокаў, сузірае рух маленькага свету — у межах роднай вёскі, — яго нязменна чакае поспех (калі толькі можна вымяраць паэзію поспехам).

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Паэт-грамадзянін

Паводле Анатоля Аўруціна — аднаго з каментатараў паэзіі Уладзіміра Шуглі — «паэт Шугля і грамадзянін Шугля — асобы абсалютна тоесныя». Вядома, многія ідэі з твораў любога паэта-грамадзяніна неадноййчы выказваліся іншымі пісьменнікамі ці прамоўцамі. Таму адзначым, што сцверджанне А. Аўруціна не ва ўсіх выпадках з'яўляецца справядлівым. Напрыклад, згаданае выданне багатае на пейзажную лірыку, якую, праўда, можна ўспрымаць і як ускоснае выяўленне патрыятычных пачуццяў.

Самымі каштоўнымі падаюцца вершы, у якіх У. Шугля піша пра глыбока асабістыя рэчы. Замест любоўных перажыванняў, неадпаведных узросту аўтара і абранаму ім амплуа, гэтыя творы прысвечаны маці, дзецям, адзінай спадарожніцы жыцця. Тут шмат цеплыні і пяшчоты. Паэт вяртаецца ў дзяцінства, згадвае маладых бацькоў, гульні з сябрамі, адмысловы




настрой. Час мінае, але нават у радках, прысвечаных сыходу блізкіх, знаходзіцца месца для хрысціянскай пакоры і светлых дум.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Неба наблізіць

Пісьменніка з Шаркаўшчыны Міледзія Кукуця добра ведаюць на малой радзіме. Ён удзельнік літаратурна-музычнага аб'яднання «Світанак», што ўжо больш як два дзесяцігоддзі працуе пры раённай газеце «Кліч Радзімы», аўтар кніг паэзіі і прозы «Адзін дзень і ўсё жыццё», «Чысціня душы». Сёлета Міледзій Мікалаевіч стаў лаўрэатам Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2013 года» і атрымаў дыплом II ступені ў намінацыі «Проза». Пераможнай для аўтара стала аповесць «На сёмым небе».

На першы погляд здаецца, што ў гэтым творы няма асаблівa вострага канфлікту, досыць простыя сюжэт, традыцыйнае аўтарскае рашэнне. Тут ёсць і чыстае каханне галоўнага героя Міхася да дзяўчыны Зіны, і здрада, і пошукі новага шчасця ў абдымках іншай каханай. Але ва ўсёй гэтай простасці хаваецца самая вялікая загадка жыцця чалавека: пошук шчасця і ўласнага месца ў свеце. Так, Міхась ідзе служыць у паветрана-дэсантныя войскі, піша Зіне цёплыя лісты, а ў адказ атрымлівае кароткія скупыя пасланні. Прыехаўшы на пабыўку, малады чалавек даведваецца, што Зіна выйшла замуж за іншага і ўжо нарадзіла дзіця. Аднак жыццё дае маладому чалавеку новы шанц на шчасце: ён знаходзіць прыгожую і верную дзяўчыну, якая чакае з войска, а потым становіцца яго жонкай.

Аповесць невыпадкова мае «нябесную назву». З асаблівай настальгіяй лірычны герой прыгадвае гады службы ў войску, скачкі з парашутам. Чытач адчувае страх маладога салдата перад вышынёй і разам з героем пераадольвае яго. Можна сцвярджаць, што менавіта наблізенне да неба паўплывала на характар і асобу галоўнага героя аповесці, а служба ў паветрана-дэсантных войсках дапамагла ўладкавацца ў жыцці. Варта было толькі зірнуць на рэчы па-іншаму — з вышыні птушынага палёту.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




# Масток паміж душамі

Некаторыя паэткі моцна крыўдуюць, калі іх вершы называюць жаночымі. Маўляў, усе пытанні, што ўздымаюцца ў паэзіі, усе тэмы — агульначалавечыя, яны не могуць быць уласцівымі адно мужчынам ці жанчынам. Тэмы сапраўды агульначалавечыя, але іх раскрыццё ў вершы розніцца ў залежнасці ад полу паэта. Да прыкладу, паэзію Вольгі Сакаловай, уладальніцы дыплома III ступені Рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор года-2013», я назвала б чыста жаночай.

Так, на старонках зборніка «Калыханка для надзеі» можна пабачыць вершы на розныя тэмы. Гэта пейзажная, любоўная, філасофская лірыка. Аднак усе творы поўняцца шчырым замілаваннем родным краем, глыбокімі пачуццямі суму, тугі па радзіме. Так адчуваць можа толькі жанчына, маці, якую лёс не спецыю сямейным шчасцем.

Тут ёсць душэўнасць і духоўнасць, шчырасць і жаночая чысціня, адданасць і клопат, спагадлівасць і мудрасць, сум па няспраўджаных марах і пакора перад Богам і лёсам.

*Ад мяне да цябе — пероны,*
*Гарадоў і дарог агні.*
*Вусны вецер цалуе сцюдзёны*
*І надзеяй ужо не звініць…*

Лірычная гераіня сумуе па родных мясцінах, аднавяскоўцах, прыгадвае знаёмыя з маленства пейзажы. Нарадзілася Вольга Сакалова ў мястэчку Азарычы, што на Гомельшчыне, сёння жыве ў Мінску ды наведваецца ў родныя мясціны. Але, пагадзіцеся, як часта ні прыязджай, часу на сустрэчу з месцамі памяці і сілы заўсёды мала. Хочацца даўжэй пакупацца ў рэчцы, якая нібыта ачышчае і напаўняе энергіяй, пасядзець каля хаты, пакрочыць знаёмымі лясныімі сцежкамі. Вось і лірычная гераіня вершаў сумуе па роднай рэчцы, бярозках, лаўках каля хат. Яе засмучае, што сыходзяць з жыцця суседзі, разбураюцца хаты, змяняюцца краявіды. Кніга «Калыханка для надзеі» змяшчае не толькі вершы. Тут можна прачытаць кароткія празаічныя нататкі-замалёўкі Вольгі Сакаловай пра сваякоў і аднавяскоўцаў. Дасціпныя і працавітыя, яны адкрыта глядзяць на чытача са старонак кнігі. Цяпер гэтыя людзі заўсёды будуць жывыя.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Помнік неўміручасці




Раман «Обаль» пісьменніка-франтавіка Алеся Савіцкага — адзін з найбольш выбітных твораў беларускай літаратуры на ваенную тэму. Вельмі шматгранны. Гэта і дакумент часоў Другой сусветнай вайны, і помнік героям-падпольшчыкам, і ўзор сучаснікам і будучым пакаленням. Прычым узор не «казённага» кшталту: паказаны просты чалавек на вайне, а мараль вынікае з псіхалагічнай матывацыі яго ўчынкаў, выбару той ці іншай пазіцыі ва ўмовах акупацыйнага рэжыму.

Сюжэтна раман уяўляе сабой гісторыю Обальскага падполля, створанага, каб наносіць ворагу матэрыяльны, стратэгічны і маральны ўрон. Калі сталыя мужчыны былі на фронце, натуральна, гэтая задача стаяла перад зусім маладымі хлопцамі і дзяўчатамі. Яны рана пасталелі і рана прынялі на сябе цяжар бескампраміснай, крывавай барацьбы. Большасць удзельнікаў Обальскай падпольнай арганізацыі закатаваныя і расстраляныя фашыстамі.

Твор А. Савіцкага вылучае не толькі фактычная насычанасць, дакладнасць, дзякуючы якой ён успрымаецца як каштоўны гістарычны дакумент. Не меншую ролю адыгрывае псіхалагічная напружанасць. Кожны з герояў падполля — асоба са сваёй невялікай, кароткай, але драматычнай жыццёвай гісторыяй, і амаль у кожнага яна перарываецца. Ва ўсведамленні таго, што не паспела спраўдзіцца, раскрыцца, — моцны трагічны падтэкст. Чытач не можа не разумець, што яго ўласнае жыццё магчымае дзякуючы подзвігу таго пакалення. Менавіта тут, здаецца, схавана вялікая выхаваўчая моц рамана «Обаль», яго невычэрпны патэнцыял уздзеяння на чытача.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Тры пытанні, тры адказы

Калі б у Брыка спыталі, што ён любіць больш за ўсё на свеце, ён бы адказаў: прыгоды і загадкі. Цяжка знайсці чалавека, які не любіў бы тое ж самае. Тым больш калі гэтаму чалавеку дзесяць гадоў.

У кнізе Таццяны Сівец «Куды прапала малпа Маня?» ёсць і першае, і другое, і нават большае — сяброўства і дабрыня. Брык і Шуся, якія мінулым разам шукалі лета, цяпер выпраўляюцца ў заапарк на расследаванне надзвычай заблытанай і цёмнай справы: мала таго, што знікла малпа Маня, дык яшчэ і нехта распачаў паляванне на яе чырвоныя каралі. Расследаванне ўдаецца завяршыць за адзін дзень, але які гэта быў дзень! Тут і страшныя падазрэнні, і крыўды, і нават каханне. Самы сапраўдны дэтэктыў, праўда, без забойства, што добра, і з гумарам, што яшчэ лепш.




Гумар пануе і ў фантастычнай аповесці Алены Туравай «Кіндэрвілейскі прывід», насычанай адсылкамі да класічных тэкстаў (напрыклад, «Фауста» Гётэ і «Кентэрвільскага прывіду» Уайльда). Аднак, нягледзячы на знешнюю забаўляльнасць, аўтар ставіць важнае пытанне: што рабіць нам са старой сядзібай, населенай прывідамі нашых жа продкаў? Пакінуць у спакоі?Ператварыць у атракцыён для замежных турыстаў? Ці ўвогуле збыць з рук? У такім ракурсе аповесць раптам перастае быць вясёлай.




Кніга Алены Міхаленка «Падарунак для Хрыста» моцна розніцца з «дэтэктывам» Таццяны Сівец і аповесцю Алены Туравай. Яна распавядае маленькаму чытачу пра Раство Хрыстова, тлумачыць, чаму людзі ў гэты дзень робяць адно аднаму падарункі і, такім чынам, ператварае чарговае сямейнае застолле ва ўсвядомленае Свята. Герой твора — маленькі хлопчык — задумваецца: чаму ж у Дзень народзінаў Хрыста ніхто не робіць падарункаў Яму? І вырашае выправіць сітуацыю сваімі сіламі.




**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Гімен, Гіменей

Пяць аповесцей, аб'яднаных тэмай кахання, уваходзяць у кнігу Анатоля Андрэева «Сусвет не месца для смутку». Галоўны герой кнігі — заўсёды свежы, разумны, пачуццёвы, упэўнены ў сабе і крыху рамантычны мужчына. Гераіня — вабная і прыемная дзяўчына, дастаткова інтэлектуальная, часам таленавітая, хаця і выяўленая галоўным чынам як эратычны аб'ект. Між героем і гераіняй абавязковым чынам паўстаюць: каханне, старэйшы сын героя, чый-небудзь жывыздаровы сужэнец і ў дадатак — некалькі побытавых праблем. У выніку на два шчаслівыя ўз'яднанні закаханых прыходзяцца два расстанні і адно ўзаемнае расчараванне — даволі аптымістычная статыстыка! Героі пакутуюць, чакаюць, спадзяюцца, ім перашкаджаюць дробныя адмоўныя персанажы і неспрыяльныя жыццёвыя абставіны. А як інакш можа быць у правільна напісанай аповесці?




У творы, аднайменным кнізе, герой Герман Аляксеевіч Ціток — пяцідзесяцігадовы «касмічны мастак», адмоўны персанаж — заможны бацька абранніцы Евы, а галоўная праблема герояў — прыкметная розніца ва ўзросце і матэрыяльным статусе. Любоўным перажываннем спадарожнічаюць інтэлектуальныя развагі і думкі пра мастацтва — у выпадку нашай аповесці гэта пасаж, прысвечаны складаным суадносінам між прасторай і часам. У аспекце міжасабовых стасункаў аўтар дзеліцца сваімі ўяўленнямі пра суладдзе ў любові: каханне разумнага мужчыны плюс жанчына, здольная шчыра адгукнуцца на пачуцце, якая цэніць абранніка і яго вачыма пачынае бачыць у свеце новыя рэчы…

Аўтарскія адступленні, лісты, сны, дыялогі — усё ў аповесці своечасова і сувымерна. Але самыя яркія моманты ў сусвеце пісьменніка здараюцца, калі герой і гераіня застаюцца сам-насам. Эратычна, смела, прыгожа — здаецца, пяць аповесцей напісаны галоўным чынам каб уславіць апантаннасць жаночым харастве і, вядома, жыццесцвярджальнае каханне, перад якім узрост у пяцьдзясят гадоў — нязначная дробязь. Калі б Анатоль Андрэеў зняў «маску» пісьменніка-інтэлектуала — што напісаў бы ён тады і ці стаў бы пісаць пра штонебудзь, акрамя усеабдымнага, хай сабе і кароткага шчасця кахання?

**Янка НАТАВЕЦ**

# Засяваем?

Таму, хто кажа, што сёння няма добрых песень на роднай мове, якія можна было б спяваць дзецям, хочацца адразу ж уручыць зборнік Івана Цітаўца «Васільковая краіна». Толькі ўявіце: амаль 300 старонак, на якіх змешчана больш за паўсотню песень з клавірамі. Прычым песні беларускамоўныя перакладзены на рускую, а некаторыя і на англійскую, французскую, нямецкую, польскую, украінскую, балгарскую ды іншыя мовы (а раптам вас запросяць на «Еўрабачанне»?). Дарэчы, Іван Цітавец — аўтар песень-доўгажыхароў нашай эстрады. Напрыклад, «Мая Радзіма» ў рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча — ужо больш як 20 гадоў. Творы Івана Васільевіча (а іх аўтар напісаў амаль паўтысячы) выконваюць таксама ансамблі «Бяседа», «Свята», «Сябры», «Церніца», «Тутэйшая шляхта», «Вербніца», многія вядомыя артысты Беларусі.

Зборнік «Васільковая краіна» — не толькі дапаможнік для музычных школ, устаноў дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, цэнтраў народнай творчасці, калектываў мастацкай самадзейнасці — гэта найперш падручнік для ўсіх шчырых аматараў беларускай паэзіі і песні!

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Даследчыку — прэмію!

Яўген Гарадніцкі — літаратуразнавец, літаратурны крытык, паэт. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Аўтар чатырох манаграфій, больш як сотні навуковых публікацый. У 2013 г. у рэспубліканскіх літаратурных выданнях пабачылі свет яго артыкулы, прысвечаныя творчасці М. Багдановіча, Я. Коласа, І. Шамякіна, навуковай дзейнасці С. Андраюка.

Публікацыі Я. Гарадніцкага змешчаны ў трох з дванаццаці нумароў «Полымя». У артыкуле пад загалоўкам «Інтэрмедыяльныя сродкі мастацкага выражэння ў творах Максіма Багдановіча» даследчык звяртае ўвагу на прыём экфрасісу (апісанне паэтычнай мовай асобных прадметаў і з'яў мастацтва), якім карыстаўся паэт. «Аналітызм даследчыка, праніклівасць крытыка» — гэта агляд прац беларускага літаратуразнаўца Серафіма Андраюка ў сучасным кантэксце. Я. Гарадніцкі вылучае галоўныя ідэі лепшых манаграфій старэйшага калегі, акрэслівае яго ўнёсак у развіццё філалагічнай навукі. Аўтар адзначае актуальнасць для беларускага літаратуразнаўства біяграфічнага метаду («Убачыць за літаратурай пісьменніка»), апісанню фактаў літаратурнага жыцця супрацьпастаўляе здольнасць да асэнсавання, абагульнення, вызначэння агульных заканамернасцей развіцця літаратуры. Варта адзначыць і надрукаванае ў «ЛіМе» даследаванне паэмы Я. Коласа «Новая зямля», у якім аўтар звяртаецца да аналізу наратыўнай структуры твора. Артыкулам Я. Гарадніцкага ўласціва лагічнасць і паслядоўнасць выкладу, спакойная інтанацыя, абгрунтаванасць высноў. Не выклікае пытанняў дасведчанасць навукоўца ў тэорыі літаратуры і здабытках айчыннага літаратуразнаўства. Даследчык не імкнецца ўразіць чытача сенсацыйным адкрыццём, а паступова аналізуе значныя аспекты беларускай класікі з выкарыстаннем сучаснай літаратуразнаўчай метадалогіі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Брэнд раёна

Кожная, нават самая маленькая вёсачка, мае непаўторную гісторыю. Аднак сапраўдныя брэнды ёсць далёка не ва ўсіх. Брэсцкаму раёну пашанцавала. Прыкладна паўтара года таму тут з'явіўся свой краязнаўчы альманах з гучнай назвай «Астрамечаўскі рукапіс». Яго ўкладальнік і галоўны рэдактар, даследчык гісторыі роднага краю Аляксандр Валковіч атрымае статуэтку «Залатога Купідона» ў намінацыі «Краязнаўства».

Назва альманаха выбрана невыпадкова. У пачатку 1960-х гадоў вядомы навуковец Адам Мальдзіс у Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве знайшоў нотны рукапісны сшытак з мелодыямі танцаў. З цягам часу «Астрамечаўскі рукапіс» ператварыўся ў «Полацкі сшытак». Заснавальнікі ж краязнаўчага альманаха вырашылі крыху выправіць гістарычную недакладнасць і зрабіць старажытны дакумент новым брэндам раёна. Зрэшты, пад вокладкай штоквартальніка можна пачытаць не толькі матэрыялы, якія распавядаюць пра мінуўшчыну Брэсцкага раёна і знакамітых выхадцаў з гэтых мясцін, але і даследаванні, прысвечаныя фальклорнай спадчыне, касцюмам, рамёствам, распаўсюджаным у рэгіёне. У рубрыцы «Літаратурная сядзіба» — творы мясцовых пісьменнікаў, а ў раздзеле «Кніжная зала» — пазнаёміца з новымі выданнямі, нейкім чынам звязанымі з Брэсцкім раёнам. Адметнае і афармленне «Астрамечаўскага рукапісу»: лагатып, пачатковыя старонкі раздзелаў, нумары старонак і рубрыкі густоўна аздоблены традыцыйнымі ўзорамі-выцінанкамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




# Санетнымі крокамі

Паэты-эксперыментатары кажуць, што строгая форма санета за стагоддзі існавання даўно вычарпала ўсе свае магчымасці: колькасць рыфмаў у мове абмежаваная, а іх спалучэнне па дакладнай формуле таксама хутка ператварыла санет у мёртвы «посуд», куды ўжо не можа змясціцца трапяткое пачуццё. Але паэт Змітрок Марозаў і перакладчык яго твораў на рускую мову Андрэй Цяўлоўскі сваёй творчасцю адмаўляюць меркаванне скептыкаў. Змітрок Марозаў вельмі любіць пісаць санеты, вянкі санетаў, А. Цяўлоўскі — іх перакладаць. І менавіта спадар Андрэй у Заслаўі атрымае дыплом І ступені конкурсу «Лепшы твор 2013 года» ў намінацыі «Пераклад» за перастварэнне санетаў і вершаў Змітрака Марозава, што склалі кнігу «Малітоўнаю матчынай мовай...».

Магчыма, прычына поспеху хаваецца ў адсутнасці ў паэта і перакладчыка класічнай філалагічнай адукацыі. Марозаў — выпускнік Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Цяўлоўскі — фізік, кандыдат тэхнічных навук. Яны не баяцца аўтарытэтных і строгіх позіркаў папярэднікаў. Змітрок Марозаў — выдатны версіфікатар, які ўмее трапна падабраць словы для стварэння патрэбнага настрою і надзвычай прыгожага вобраза. Андрэй Цяўлоўскі — віртуоз перакладу. Яго перастварэнні — не толькі водгулле беларускамоўных арыгіналаў, але і самастойныя паэтычныя творы, якія цалкам лагічна і заканамерна гучаць па-руску.

Варта прыгадаць і першы ў беларускай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Усе 225 санетаў мусяць і ў перакладзе ўтвараць мудрагелісты ўзор. Дарэчы, гэты пераклад вы знойдзеце ў згаданым выданні.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Шлях ад сэрца да сэрца

**Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі пройдзе Міжнародны «круглы стол» на тэму «Пісьменнік і грамадства». Паэты, празаікі, публіцысты, перакладчыкі з розных краін збяруцца, каб абмеркаваць актуальныя пытанні супрацоўніцтва ў галіне літаратуры. Напярэдадні самой імпрэзы мы папрасілі яе ўдзельнікаў адказаць на два пытанні: у якіх кірунках варта больш актыўна развіваць міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне літаратуры? Ці можа ў нашыя дні міжнародная пісьменніцкая супольнасць уздзейнічаць на працэсы, што адбываюцца ў грамадстве?**



**Святлана Ананьева, загадчык аддзела аналітыкі і знешніх літаратурных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Казахстан, сябар Саюза пісьменнікаў Казахстана:**

— Міжнароднае супрацоўніцтва пажадана было б працягваць ва ўсіх кірунках: сумесныя выдавецкія праекты, выпуск анталогій, новыя мастацкія пераклады твораў класікі і сучасных пісьменнікаў, паэтаў, драматургаў, публіцыстаў, асабліва дзіцячай літаратуры, выданне навуковых літаратуразнаўчых работ і г. д.

У сярэдзіне жніўня ў горадзе Алматы на плошчы Акадэміі навук прайшоў кніжны фестываль «KITAP FEST ALMATY 2014». Самыя буйныя выдавецтвы і кнігарні Казахстана тут атрымалі ўнікальную магчымасць не толькі прадставіць сваю прадукцыю на кніжным кірмашы, але і прадаць кнігі са зніжкай 15 працэнтаў. Арганізатары кніжнага фестывалю сустракалі яго ўдзельнікаў з пытаннем: «Якую кнігу вы прачыталі апошняй?» і прапаноўвалі запісаць адказ на стэндзе. Нехта жартаваў, а хтосьці шчыра адказваў, што не памятае. Школьнікі старанна выводзілі назву кнігі і прозвішча аўтара, пакідаючы водгук пра самы лепшы твор і спяшаючыся не спазніцца да пачатку фестывалю, паўдзельнічаць у акцыі «Запішыся ў бібліятэку».

Фестываль доўжыўся ўвесь дзень і ўключаў прэзентацыю кніг для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі, дзіцячыя конкурсы (чытанне вершаў, гульні, конкурс малюнкаў на асфальце). Для дзяцей былі прадстаўленыя серыі «Мая першая кніга», «Вывучаем казахскую мову. Азбука-сшытак», казкі Карнея Чукоўскага, «Хлопчык-з-пальчык» і многія іншыя на казахскай мове, новая кніга Лілі Калаўс і Зіры Наўрызбаевай "У пошуках Залатой чашы. Прыгоды Бату і яго сяброў" і гэтак далей. Усе ахвотныя маглі паслухаць майстар-класы Каната Тасібекава «Сітуатыўная казахская», Аян Кудайкулавай «Жанчына і літаратура ў Казахстане», Дастана Кадыржанава «Раман-верлібр. Унікальны жанр, ці Магчымасць поўнага выражэння ідэі аўтара», Аджыра Кумана «Літаратурная дакументалістыка», Аляксандра Цоя «Музыка прозы».

Пра дзіцячую літаратуру і лёс кнігі для дзяцей у Казахстане, пытанні кніжнай культуры, пра тое, як прывабіць увагу дзяцей да чытання, разважала галоўны рэдактар альманаха «Кнігалюб» Ліля Калаўс. Найбольш актыўным удзельнікам былі ўручаныя дыпломы. Але самае галоўнае — кнігі ранейшых гадоў выдання, складзеныя ў прадстаўнічую піраміду, знайшлі сваіх чытачоў: нехта беражліва нёс 5-ы том Міхаіла Шолахава і падборку прозы, нехта абкручваў выбраныя кнігі шпагатам. Іншыя акуратна склалі іх побач, слухаючы сучасных пісьменнікаў. Жыццё кнігі працягваецца. Павінна доўжыцца і супрацоўніцтва, каб мы ведалі пра навінкі, пра сучасны літаратурны працэс у нашых краінах.

2. Проста абавязаная. Класічная літаратура заўсёды выконвала асветніцкую функцыю і мела вялікі выхаваўчы патэнцыял. Голас інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікаў, павінен быць пачуты.



**Аляксандр Казінцаў, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш сучаснік»:**

— Свет глабалізуецца. Развіццё праз супрацоўніцтва — вось яго дэвіз. Той, хто ізалюе сябе, непазбежна апынецца ззаду тых, хто адстае. Іншая справа — умовы, на якіх адбываецца абмен. Супрацоўніцтва павінна быць узаемным і раўнапраўным, інакш яно ператворыцца ў дыктат моцных. Каб гэтага не адбылося, неабходна развіваць гуманітарныя кантакты — узаемадзеянне культур і людзей. Шлях ад сэрца да сэрца. Тут усе роўныя, кожны можа прапанаваць іншым нешта сваё, непаўторна індывідуальнае, і тым самым узбагаціць свет, ва ўзаемадзеянні з якім узбагачаецца ён сам.

2. Наўрад ці, але варта замяніць словы «міжнародная супольнасць і грамадства» на «чытач і пісьменнік» — і становішча будзе не настолькі безнадзейным! Літаратура і мастацтва ў цэлым — такая сфера, дзе лепш дамаўляцца адзін на адзін, чалавеку з чалавекам. Канечне, чалавек сёння стаміўся ад татальнага выхавання, якое насаджала XX стагоддзе. Але з іншага боку, яму цяжка сам-насам з агромністай адчужанай рэчаіснасцю. Ён хоча пачуць словы разумення, суперажывання, суцяшэння. Магчыма, падсвядома, але хоча. Хто можа іх даць, акрамя святара і пісьменніка?



**Лула Куні, галоўны рэдактар чачэнскага мастацка-публіцыстычнага часопіса «Нана», паэтка, перакладчыца:**

— Мы жывём у вельмі неспакойны час, калі славутая «вялікая палітыка» можа агрэсіўна ўварвацца ў жыццё любога этнасу: распачынаюцца міжнацыянальныя ці міждзяржаўныя канфлікты, перарываюцца стагоддзямі напрацаваныя добрасуседскія адносіны…

На жаль, у сённяшнім свеце ад ролі прызначанага моцнымі гэтага свету «ахвярнага ягняці» ніхто не застрахаваны. У канфліктных становішчах традыцыйна сумніўнымі (у мэтах чорнага піяру) становяцца асноўныя каштоўнасці прымусова «супярэчлівага» боку: культура, моўная ўнікальнасць, аўтахтоннасць.

Што мы — грамадства — можам супрацьпаставіць усёй гэтай мешаніне інсінуацый і падману? Толькі адкрытасць народаў — імкненне зразумець ментальныя асновы адзін аднаго, этнадушу…

Я далёкая ад пафаснасці ружовых акуляраў, якая калісьці дэкларавалася выслоўем кшталту «за рукі возьмемся, сябры». Але тое, што мы, народы постсавецкай прасторы, можам і павінны ўзаемадзейнічаць у межах міжкультурнага супрацоўніцтва, можам і павінны імкнуцца спасцігнуць тое, што складае «твару не агульны выраз» любой нацыі, не выклікае сумневаў.

Літаратура, мастацтва, фальклор, этнаграфічныя складнікі — усё гэта рэчы аднаго парадку. І ўсе яны — адлюстраванне душы народа, тое, што ў канчатковым выніку дапамагае вызначыць значнасць любога этнасу ў культуралагічнай прасторы сённяшняй айкумены.

2. Так, інакш губляецца сам сэнс нашага быцця ў статусе літаратараў. Менавіта літаратура — калі яна сапраўдная, калі яна грунтуецца на першапачатковых гуманістычных пастулатах (Божых запаведзях) — з'яўляецца той аховай для грамадства, што засцерагае яго ад крайнасцей у духоўных пошуках. Мы не маем права хавацца ад праблем грамадства, зачыніўшыся ў «вежы са слановай косці», уяўляючы сябе небажыхарамі, якія не могуць апусціцца да мітусні свету. Літаратура заўсёды застаецца індыкатарам памкненняў грамадства. А ў смутныя часы яна выконвае і функцыю духоўнага маяка. Але ўсё гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі людзі, якія пішуць, асабова роўнавялікія таму, што дэкларуецца ў іх творах. Толькі тады іх пачуе грамадства, яны будуць лічыцца духоўным авангардам.

Аб'яднаўшыся, пісьменнікі розных краін постсавецкай прасторы змогуць стаць сілай, з якой неабходна лічыцца.



**Ато Хамдам, сустаршыня Форуму перакладчыкаў і кнігавыдаўцоў краін СНД і Балтыі, галоўны рэдактар выдавецтва «ЭР-граф» (Таджыкістан):**

— Актыўнае міжнароднае супрацоўніцтва перш за ўсё павінна пачынацца з культуры і мастацтва. Чытаючы кнігі пісьменнікаў іншых народаў, праглядаючы іх тэатральныя пастаноўкі і кінафільмы, пазнаеш характар, даведваешся пра цяжкасці і дасягненні. І ўсё гэта стварае аснову для супрацоўніцтва ўжо ў такіх сферах, як эканоміка і палітыка. У савецкім мінулым так і было. Культура і мастацтва фінансаваліся дзяржавай, мы мелі цесныя стасункі адзін з адным, жылі аднымі радасцямі і клопатамі. Таму галоўнымі былі такія паняцці, як сяброўства, братэрства, узаемадапамога.

Усё гэта ў мінулым. Цяпер, зачыніўшыся ў сваіх нацыянальных кватэрах, мы сустракаемся эпізадычна, амаль не ведаем успамінаў майстроў мастацтваў і літаратуры і тым самым робім сябе бяднейшымі. Ці магчыма адрадзіць былыя формы сяброўскіх кантактаў і ўзаемаадносін? Я гляджу на гэта без энтузіязму. Рынкавая эканоміка адцясніла культуру і мастацтва на другое месца, а там, дзе кіруюць грошы, музы прамаўляюць напаўголас.

2. Практыка паказвае, што міжнародная пісьменніцкая супольнасць слаба ўздзейнічае на працэсы, што адбываюцца ў грамадстве. Каб пісьменнікі актыўна ўплывалі на палітыку і грамадскую свядомасць грамадзян, трэба быць незалежнымі ў матэрыяльных адносінах. А калі творчасць падтрымліваецца спонсарамі ці кіруючай элітай, то пра якую трывалую грамадзянскую пазіцыю можа ісці гаворка? Вядомы крылаты выраз «хто плаціць, той і замаўляе музыку» — то бок дакладна вызначае механізмы, што рухаюць пісьменніцкую супольнасць.



**Валерый Казакоў, пісьменнік, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі»:**

— У справе ўмацавання чалавечай духоўнасці варта працаваць заўсёды і ва ўсіх сферах. Забыццё духу і чалавечнасці дае страшныя вынікі, тым больш у нашым свеце, што хутка змяняецца. Самі бачыце, вайна ўжо на парозе нашага дома і нашых дзяржаў. Легкадумна меркаваць, што ў будучыні ў кагосьці атрымаецца адседзецца за акіянам ці за сцяной нейтралітэту. Сёння настаў «момант ісціны», сёння кожны мусіць вызначыцца, хто ён: чалавек святла і міру ці чалавек цемры і вайны. Не вызначымся — паўторым трагедыю дзядоў.

Сімвалічна, што новую вайну Еўропе навязваюць праз стагоддзе з пачатку Першай сусветнай. Пісьменнік — адзіны, хто можа супрацьстаяць гэтаму злу, хто можа пайсці насуперак усяму.

2. Галоўная задача сіл цемры ва ўсе часы заключалася ў раз'яднанні людзей свету. Сёння раз'яднаныя і народы, і іх носьбіты духу — людзі мастацтва. Сёння час тэлешабашу і папсы нізкага гатунку, якая больш чым на слабыя перарабкі не здольная. Складана казаць пра міжнародную супольнасць пісьменнікаў — яе, на мой погляд, няма. Ёсць некаторыя аб'яднанні, але гэта хутчэй шыльды, а не арганізацыі, што працуюць. На постсавецкай прасторы ў нас не вельмі добрыя справы. Мала таго, што зашыліся кожны ў сваю мястэчковасць, дык яшчэ многія кінуліся абслугоўваць — хто багатых, хто прыхільнікаў нацыянальнай выключнасці, хто захрас у д'ябальшчыне. Але не ўсё так мінорна. Духоўнае святло нельга затушыць у сэрцах яго носьбітаў, у сэрцах народаў. Гэта ярка дэманструе Свята пісьменства ў Беларусі. На мой погляд, сёння Беларусь — адзіная чыстая крыніца ў цывілізаваным свеце. І яе патрэбна захаваць, бо гэта, магчыма, — аснова нашай будучыні.

## Алесь РАЗАНАЎ

### Рагнеда

*Адсылаюцца сваты —
рэй пусты...
Трубу абрыне
не абраны, не святы:
для рабыніча — рабыні.*

*Як страла трымціць —
прыспеў
Курны дым — як сцелюць воўну...
Налучыўся неспадзеў
карны выкуп за князёўну.*

*Слынна ў варварскія дні
выкшталцоўвалася крэда:
пры вачах шчытной радні
абняслаўлена Рагнеда.*

*Уладзімір, уладар,
праз вякі крычыць здарэнне,
праз вякі гудзе пажар:
чад і слёзы — парадненне.*

*Ад радзіны анідзе —
парадненне —
анікога.
Праз вякі на збой ідзе —
тлен і парасткі —
дарога.*

*Цесны церам, змор звініць,
зазвініць душа-вярэда...
Прыпадзе каханка ніц...
Занясе лязо Рагнеда,
не за волю і дабро —
за няволю і змірэнне...
О, рабыннае таўро —
з пераможцам парадненне.*

*Неназванаю была,
неназванай засталася —
знак святлейшага гала
пад хусцінаю Настассі.*

*На зняверанай вярсце
адрачонымі начамі
прыадчыніцца: расце
сын — вачамі палачанін.*

*Адраджэнне:
заснуе...
адрадненне:
верне краю
род упарты — усе свае...
Род адступнікаў карае.*

*А пакуль, князь,
а ці знаў —
ты не сам тут...
Як закляцце —
прыўзнімае Ізяслаў
меч, атрыманы ад маці.*

## Віктар ГАРДЗЕЙ

### Па дарозе ў Заслаўе

*Жыццё ёсць рух! Не пялься па баках:
Імчыць аўто — аж мільгацяць прысады.
Чакае нас уславлены ў вяках
Радзімы кут, які пашанам рады.*

*Наўсцяж бягуць пагоркі і лугі,
А дзе зліліся Свіслач і Чарніца,
Заслаўе выплывае з-за смугі —
Пісьменства беларускага сталіца.*

*Пра дождж і град, скуль стаўся недарод,
Пісалі нашы продкі на бяросце,
І кожны, хто не зганіў свой народ,
На гэтым свяце будзе лепшым госцем.*

*У верасня шмат шансаў на цяпло:
Ляцяць высока гусі шчыльным клінам.
Калі ў твой «комп» натхненне не сышло,
Пішы, як Будны, твор пяром гусіным.*

*Філосаф і асветнік грэшны свет
Вучыў літанням, жыць вучыў па-боску.
Ён пераклаў і Новы Запавет,
І меў друкарню ля Заслаўя ў Лоску.*

*Глядзі: раптоўна востры шпіль узнік
Між восеньскіх
і жніўеньскіх угоддзяў.*

*Заслаўя вечнай славы чыставік
Ствараўся тут на ростані стагоддзяў.*

*Хай абмялела Свіслач з той пары,
Яна ж калісь азартна падмывала
Разбуранай фартэцыі муры
І ўмацаваны замак феадала.*

*Мінае ноч, і ажылі званы,
І дзіўны кут павесялеў уранні.
Пра што маўчаць сягоння курганы,
Расказваюць легенды і паданні.*

*Ступаў па замчышчы вядомы Ізяслаў,
І гонар меў, і чуў ён боль Рагнеды.
Ім абаім шлях цяжкі лёс праслаў,
І гэты шлях не абмінулі беды.*

*Мільгне прагал — то рэчка, то ставок,
Бяроз чародка — быццам з акварэлі.
Дзе праваслаўя зацурчэў выток,
Там нават храмы боскія гарэлі.*

*Абломкі стрэл, мячоў, парэшткі дзід,
І продкаў мужнасць пад курганнай зоркай.
На Свіслачы чароўны краявід,
Хаця пілі жыццё тут з чашы горкай.*

*Дарогай да святынь то сонца, то сутонь,
І многім з'явіцца сам Ізяслаў з паходняй,
А Дабратворны свеціцца Агонь,
Як сімвал Веры, ад Труны Гасподняй.*

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### Маё Заслаўе

*Малітоўна-ўспамінна
У сэрцы жыве гэта слова.
І куды б ні закінуў
Мяне мой бязлітасны лёс,
Ліцца песня павінна —
Пяшчотная споведзь-размова —
Хоць даўно я пакінуў
Той ранак, зіхоткі ад рос.*

*І на золку жыцця
Нарадзіўся палёт юных крылаў,
І бязмежнае шчасце,
Што грэе душу неспадзеў...
І таго пачуцця
След у сэрцы мой горад пакінуў,
І душу маю лашчыць
Дзяцінства салодкага спеў...*

***

*Радзіма кліча:
«Прыязджай, сынок!
Чакае дом цябе бацькоўскі, сад і гоні,
І малады, падрослы
ўжо дубок,
Які адчуў калісь цяпло тваіх далоняў;
Заслаўскі луг з высокаю травой,
Чарнушка-рэчка
ля якога ўецца...»
Маё Заслаўе,
я заўжды з табой...
Жыві, квітней ты —
горад майго сэрца!*

## Святлана БЫКАВА

### Заслаўе

*Заслаўе! У падмурках
тваіх — курганы,
Хаваюць вякоў
таямніцы яны.
Заслаўе! — легенда мінулых вякоў,
Пачатак вялікіх
бацькоўскіх шляхоў.*

*Не раз тут гучалі
трывожна званы
У дні ліхалецця,
мору, вайны,
Ды чуліся песні на светлыя святы,
І ў Свіслач пускалі
вяночкі дзяўчаты.*

*Стаіць горад там,
дзе вякамі стаяў,
І помнікі продкаў
для нас захаваў.
Паміж курганоў,
дзе Рагнеды магіла,
Ён вуліцы выпрастаў,
нібыта крылы.*

*З пары старажытнай сюдою пралёг
Той шлях, што прыводзіў
на родны парог,
І згадваем мы на ім
постаць Рагнеды,
І думкі ляцяць у той час
запаветны...*

## Віктар ШНІП

### Верасень у Заслаўі

*касцёл і царква
трымаюць неба над Заслаўем
дзе рэшткі замка старога
сярод травы
як рэшткі летапісу
сярод попелу*

*валуны як мінулыя стагоддзі
ляжаць у падмурках
старых і новых дамоў
з вакон якіх
бачыцца будучыня
як сонца якое не заходзіць
якое залежыць ад нас
і ад валуноў
якія ў нашых падмурках*

*вада ў рацэ светлая
і бясконцая як вечнасць
і бярозавы лісток на вадзе
як пісьмо ад Рагнеды
плыве
асвятляючы берагі
на якіх Беларусь*

*у школу ідуць дзеці
вясёлыя і прыгожыя
і лісце пад іх нагамі
як залатыя пырскі
вераснёвай раніцы
дзе вераснёвае сонца
як верасовы мёд
што сабралі заслаўскія пчолы*

*я прыйшоў у Заслаўе
каб быць у цэнтры верасня
каб быць у цэнтры свята
каб быць у цэнтры
каб быць*

## Уладзімір МАЗГО

### Рагнеда

*Ты прыходзіш з мінулых вякоў,
Як багіня, зямная кабета.
Я імя тваё звонам падкоў
Высякаю, што іскры, Рагнеда.*

*Вобраз твой, як абраз, намалю,
Што, здаецца, падораны Богам.
Ты сышла на святую зямлю
Нашай памяці зорнай дарогай.*

*Толькі ўбачу пагляд твой здалёк,
Як адразу знікае туга ўся.
Мо ў цябе я, нібы матылёк,
У сінечу нябёс, закахаўся.*

*Зноўку іскры з-пад конскіх падкоў,
Нібы знічкі, ляцяць над планетай,
Каб прыйшла ты з мінулых вякоў
Як маё ратаванне, Рагнеда.*

## Мікола ШАБОВІЧ

### Дзмітрыю Пятровічу

*Складаем гімны
роднаму кутку:
Бадзеням — я, а ты —
свайму Заслаўю.
Хто мы без іх, сваіх куточкаў слаўных, —
Не выказаць ні ў песні,
ні ў радку.*

*Табе мо ў сны прыходзіць Ізяслаў,
Цябе лякуе памяць пра Рагнеду.
Мне ж славіць
кут нібыта
менш падстаў:
Няма тут вежаў —
засцярог ад бедаў.*

*Ды кожны кут па-свойму,
пэўна ж, міл,
Бо толькі там, дзе першыя вытокі,
Сабе жыццёвых назапасім сіл
На новыя — акрыленыя — крокі,*

*Каб не змяніць ні ў песні, ні ў радку
І ў бегу дзён, дзе шмат і марнатраўя,
Усё ж складці гімны роднаму кутку:
Бадзеням — я, а ты —
свайму Заслаўю.*

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

# Літаратурнае Заслаўе



Фота Анатоля Клешчука

Небагата на беларускай зямлі старажытных мясцін, якія па збегу гістарычных абставін дасціпныя летапісцы не маглі абмінуць сваёй увагай. З іх ліку і Заслаўе — сённяшняя сталіца беларускага пісьменства. З'яўленне гэтага горада на скрыжалях гісторыі непасрэдна звязана з імёнамі полацкай князёўны Рагнеды, кіеўскага князя Уладзіміра, іх сына Ізяслава. Першыя звесткі пра княскія «крывавыя» заручыны змешчаны ў «Аповесці мінулых часоў» пад 980 год. У двух іншых вядомых летапісах — Іпацьеўскім і Лаўрэнцьеўскім — упершыню згадваецца само Заслаўе — тагачасны дзядзінец з гандлёва-рамесніцкімі пабудовамі і ўмацаваным замкам феадалаў. Ёсць яшчэ і трэцяе паданне пра непахісную, гордую Рагнеду, занесенае пад 988 год у Цверскі летапіс. Словам, пачатак хрысціянства на Беларусі адзначаны трагічнымі падзеямі, пра што красамоўна апавядаюць старажытныя пісьмёны, легенды і паданні, быліны і літаратурныя помнікі пазнейшых стагоддзяў.

Паводле летапісаў, гордая і непадкупная Рагнеда, дачка полацкага князя Рагвалода, адхіліла сватанне Уладзіміра Святаслававіча, які тады княжыў у Ноўгарадзе. «Не хачу разбуці рабыніча», — кінула яна ў твар прыезджым сватам на чале з ваяводам Дабрыняй, маючы на ўвазе, што Уладзімір быў сынам Святаслава і рабыні Малушы. Раззлаваны жаніх пайшоў на Полацк збройным паходам, каля 980 года заваяваў горад, забіў бацьку, маці, двух братоў Рагнеды, а яе гвалтоўна зрабіў сваёй жонкай і даў славянскае імя Гарыслава. Зняволеная княгіня з пачуцця помсты хацела пазбавіць мужа жыцця, калі ён спаў. Аднак замах не ўдаўся — князь Уладзімір акурат прачнуўся і перахапіў меч. Па звычаю таго часу валадар павінен быў пакараць жонку, але за маці заступіўся малалетні сын Ізяслаў. Рагнеду мучыла і свая, жаночая, крыўда, бо, як сведчаць летапісы, князь Уладзімір быў добрым лавеласам і меў палюбоўніц «усяго асьмсот».

Пасля хрышчэння Русі і ліквідацыі княскага гарэма княгіня адмовілася другі раз выйсці замуж і пастрыглася ў манашкі пад імем Анастасіі. Сасланая князем у далёкую ад Кіева глухамань, яна, прыніжаная і зняважаная, жыла ў Заслаўі, толькі што збудаваным горадзе і названым так у гонар яе мужнага і храбрага сына Ізяслава. Згодна з летапісамі, тут яна правяла свае апошнія паднявольныя дні, і сёння, больш як праз тысячу гадоў пасля згаданых падзей, у ваколіцах Заслаўя не засталося і знаку ад колішніх феадальных уладанняў і сцен манастыра, які, зноў жа паводле легенды, Рагнеда Рагвалодаўна заснавала ў Заслаўі. Старажытнае замчышча — правільней, гарадзішча «Замэчак» — мясцовыя жыхары невыпадкова цягам стагоддзяў з пашанай і любоўю называюць «Магіла Рагнеды», хаця дакладнае месца пахавання вялікай і мужнай князёўны да канца засталося нявысветленым.

На гэты конт у старажытнай і пазнейшай славянскай літаратуры існуе некалькі версій. У працэсе падрыхтоўкі кнігі пра Заслаўе на вочы мне патрапілася яшчэ адно народнае паданне, і гэты, па сутнасці, архаічны міф у запісе Л. Дучыц я цалкам прыводжу з энцыклапедычнага слоўніка «Беларуская міфалогія»: «*Гара Рагвалода і Рагнеды, Рагнедзін Курган, сакральная гара вышынёй каля 10 м на паўвыспе Перавоз на возеры Дрыса. Паводле паданняў, на гары быў забіты князь Рагвалод ударам каменнага малатка. Потым тут была пахавана княгіня Рагнеда. Напярэдадні вайны з гары з'язджае магутны вершнік у панцыры*». Падобныя звесткі пра лёс няскоранай полацкай князёўны ёсць у працах фалькларыста А. Семяноўскага «Беларускія старажытнасці», у 3-м томе «Живописной России» ды іншых друкаваных крыніцах. Легенды і паданні, створаныя ў розныя часы і ў розных месцах, мала супярэчаць адно аднаму, хоць асобныя разыходжанні ў тлумачэнні і трактоўцы фактаў усё ж дзе-нідзе заўважаюцца. А гэта ў такой далікатнай справе, як рэканструкцыя самых загадкавых гістарычных падзей, — з'ява ўвогуле непазбежная.

Прайшлі стагоддзі, і многія пакаленні, можна сказаць, сапраўды былі сведкамі, калі з сакральнай Рагнедзінай гары на возеры Дрыса з'язджаў закаваны ў латы вершнік, таму што войны на гэтай шматпакутнай зямлі фактычна ніколі не спыняліся. Але, нягледзячы на ўсе беды і ліхалецці, наш народ любоўна зберагае ў сваёй памяці легенды, быліны і паданні, звязаныя з імем полацкай князёўны. Пра яе жыццё і мужнасць складзены паэмы, оды і панегірыкі, празаічныя творы, пастаўлены спектаклі, створаны кінастужкі. Дасведчаныя літаратуразнаўцы сцвярджаюць: Рагнеда да сённяшняга дня застаецца самым прывабным і абаяльным жаночым вобразам у старажытнай і сучаснай літаратуры, і немалаважны факт, што ў абсалютнай большасці гістарычныя падзеі разгортваюцца ў Заслаўі і яго ваколіцах — знакамітым гарадку, які сёлета ў чарговы раз названы сталіцай беларускага пісьменства.

Літаратурнае Заслаўе, па праўдзе кажучы, нельга ўявіць без аднаго з першых беларускіх асветнікаў і рэфарматараў Сымона Буднага. Каля 1570 — 1571 гг. ён прыехаў з Хохлава да Яна Глябовіча, тагачаснага ўладальніка Заслаўя, дзе жыў больш за год. Тут ён скончыў пераклад Старога Запавету, які неўзабаве разам з перапрацаваным Новым Запаветам і «Прадмоваю да чытача» быў выдадзены Даніэлем Лянчыцкім — вядомым у той час друкаром. Некаторы час С. Будны быў прапаведнікам у Лоску (па дарозе на Маладзечна), дзе ў заснаванай ім друкарні выдаў многія свае творы. Некаторыя даследчыкі выказваюць думку, што Біблія 1752 г. надрукавана ў Заслаўі, куды перабраўся С. Будны і куды нібыта перанеслі Нясвіжскую друкарню. Аднак гэты факт пакуль не даказаны. Прадаўжальнік гуманістычных традыцый Францыска Скарыны, філосаф і гісторык Сымон Будны зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё беларускай мовы, выступаў за ўсебаковае супрацоўніцтва ўсіх славянскіх народаў.

Вось яшчэ адзін пісьменнік, чый творчы шлях пачаўся ў Заслаўі. Першая літаратурная праца Аляксандра Пшаздзецкага — прапраўнука тутэйшага магната Антонія Пшаздзецкага — кніга «Падолле, Валынь Украіны. Вобразы гарадоў і часоў». У ёй дасканала напісаны добра знаёмыя аўтару з дзяцінства месцы. У 1843 г. Аляксандр стварае бібліятэку і выдавецкае таварыства. Пазней, у 1852 г. набывае палац у Варшаве, дзе змяшчае бібліятэку, асноўны фонд якой (36 000 тамоў) складаюць кніжкі з даўніх каралеўскіх бібліятэк Жыгімонта Аўгуста, Яна Казіміра, Яна III Сабескага і іншых, атрыманыя ў спадчыну ад бацькі.

У старажытным Заслаўі знайшоў свой апошні прытулак вядомы грамадскі дзеяч і пісьменнік Ян Барэйка Ходзька. Ён — першы масон у Беларусі, аўтар 12-томнага збору «Pisma rozmaite». У 1851 г. яго пахавалі на мясцовых могілках. На жаль, магіла Яна Ходзькі не захавалася да нашых дзён, у пісьмовых крыніцах няма звестак пра месца яе знаходжання.

А нарадзіўся Ян Ходзька ў чэрвені 1777 г. у родавым маёнтку Крывічы (цяпер Мядзельскі раён). Вучыўся дома, потым у Вільні. З 1811 г. — старшыня Галоўнага цывільнага суда ў Мінску-Літоўскім. У часопісе «Дзеі дабрачыннасці» апублікаваў трактат пра сялянскія школы, а ў 1821 г. выдаў кнігу «Пан Ян са Свіслачы», якая вытрымала чатыры польскія і два літоўскія выданні, і стаў ганаровым сябрам Віленскага ўніверсітэта. Ян Ходзька — аўтар шматлікіх апавяданняў, аповесцей, драматычных твораў, навукова-гістарычных артыкулаў, што друкаваліся ў газетах «Ведамасці бруковя», «Менскай газеце», часопісах «Атэнэум», «Дзеі дабрачыннасці».

Апошнія гады жыцця (1580—1583) правёў у Заслаўі Ян Ласіцкі — польскі гісторык, бібліёграф, пісьменнік, друкар. Аўтар працы «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татараў...» (1582). Цікавіўся этнаграфіяй народаў, якія насялялі тэрыторыю Польшчы і ВКЛ, тэорыяй культуры.

З горадам Ізяслава і Рагнеды звязаны лёс многіх творцаў і вучоных. Так, пісьменнік Хвядос Шынклер таксама нарадзіўся ў Заслаўі (верасень 1903 г.). Працаваў тэлеграфістам на чыгунцы, бібліятэкарам, загадчыкам клуба. З 1922 г. — рабкор цэнтральных і рэспубліканскіх газет і часопісаў, з 1929 г. працуе ў Бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», а з 1935 па 1941 гг. — у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя рэвалюцыі». Першае апавяданне — «Пас зачапіў» — надрукаваў у 1928-м годзе. Асобнымі кнігамі выйшлі яго апавяданні «Ічэ», «Блок», «Стрэлачнік Мігай», аповесці «Сонца пад шпалы», «Пульс жыцця», «Запіскі інструктара Тамана». Ён аўтар п'есы, кінасцэнарыя, аповесцей для дзяцей. Галоўная тэма творчасці Х. Шынклера — станаўленне рабочага класа пасля 1917 г., нялёгкая, але рамантычная праца чыгуначніка. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, афіцэр. У красавіку 1942 г. загінуў пад Сталінградам.

Доктар філалагічных навук, прафесар Сцяпан Карабан нарадзіўся ў 1901 г. у в. Дзехнаўка, што паблізу Заслаўя. Даследаваў філасофію, эстэтычныя і літаратурныя погляды рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, творчасць Янкі Купалы. Узбагацілі беларускае літаратуразнаўства «Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20 — 30-х гадоў». Пахаваны Сцяпан Ігнатавіч на заслаўскіх могілках.

З Заслаўем цесна звязана жыццё і творчасць Фёдара Янкоўскага — вядомага беларускага пісьменніка, фалькларыста, літаратуразнаўцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў разведгрупай партызанскага атрада «Грозны», які дыслацыраваўся ў заслаўскім лесе. А да вайны працаваў настаўнікам Буцэвіцкай школы. У 1954 г. Фёдар Міхайлавіч абараніў дысертацыю і заняўся навуковай дзейнасцю. Адначасова плённа супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет і часопісаў. Яго апавяданні былі надрукаваны ў зборніках «Абразкі», «Прыпыніся на часіну», «І за гарою пакланюся», «Радасць і боль». Прафесар Янкоўскі выхаваў шэраг моваведаўцаў — дактароў і кандыдатаў філалагічных навук.

Малавядомы паэт Аляксей Пыліла жыў у Заслаўі з 1964 г., працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Многія яго вершы прысвечаны гораду:

*Рагнеда знікала ў зямліцу,*
*Як лёгкі і прывідны цень...*
*Жывуць каля замчышча людзі,*
*Што бачылі дзіўны прыход,*
*І вераць. Рагнеда ў іх будзе*
*У ноч на Купалу праз год.*

Добрую памяць пакінуў пра сябе на Заслаўшчыне і Сяргей Новікаў — заслужаны настаўнік БССР (1957), удзельнік штурму Берліна, кавалер многіх баявых ордэнаў, аўтар кнігі вершаў «Адкрыццё».

У Заслаўі пахаваны таксама пісьменнік Раман Сабаленка — аўтар трылогіі «Іду ў жыццё», зборнікаў апавяданняў і нарысаў «Жменя зярнят», «Сустрэчы», «Блакітнае зззянне» і іншых.

У гэтым кароткім аповедзе пра Заслаўшчыну літаратурную нельга не ўзгадаць і сучасных маладых творцаў. Святлана Быкава нарадзілася ў Заслаўі. Закончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Працавала на прадпрыемствах і ва ўстановах роднага горада. З'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама членам Мінскага клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца» пры абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна і клуба «Сузор'е» Заслаўскай гарадской бібліятэкі. Піша вершы, казкі і песні на рускай і беларускай мовах. Друкавалася ў рэспубліканскіх выданнях, а таксама ў калектыўных беларускіх і расійскіх паэтычных зборніках. Выдала кнігі вершаў «Без любви в мире краски не те…», «С чистого листа», «Откровения позднего лета», «Дорога к себе», «Из рук выпускаю синицу, устремляясь в мечтах к журавлю».

Дзмітрый Пятровіч — паэт, празаік, кампазітар. Нарадзіўся 29 кастрычніка 1971 г. у Заслаўі. Скончыў музычна-педагагічны факультэт, факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, а таксама магістратуру пры ўніверсітэце. Шмат гадоў настаўнічаў. Цяпер працуе вядучым стылістычным рэдактарам газеты «Звязда». Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Аўтар шматлікіх публікацый у часопісах «Маладосць», «Роднае слова», «Бярозка», калектыўных зборніках, альманахах, штотыднёвіку «ЛіМ», «Краязнаўчай газеце» і іншых выданнях. У 2010 г. убачыў свет яго зборнік паэзіі «Белая квецень каханя», праз два гады — кніга прозы «Белая Жанчына», адзначаная рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон» на конкурсе «Лепшы твор-2012». Сёлета Д. Пятровіч выдаў кнігу вершаў «Адзіноты пажоўклыя дні». Аўтар больш як 100 песень на словы сучасных беларускіх паэтаў (у тым ліку на ўласныя вершы).

Заслаўе, яго гісторыя, светлыя вобразы Рагнеды і Ізяслава натхнялі многіх пісьменнікаў. Ім ахвяравалі свае творы Янка Купала, Тарас Шаўчэнка, Янка Сіпакоў, Іван Чыгрынаў, Таіса Бондар, Алесь Разанаў, Віктар Шніп ды іншыя. Сучасныя творцы, якія свае вершы, паэмы і аповесці прысвяцілі нашаму слаўнаму мінуламу, вартыя таго, каб іх імёны з удзячнасцю былі згаданы ў Заслаўі на Дзень беларускага пісьменства.

# Пачатак — у 1127-м

**Падрыхтаваць альбом, прысвечаны пэўнаму населенаму пункту, на першы погляд досыць проста. Натуральна, варта разгледзець мінуўшчыну горада, распавесці пра яго нараджэнне, сталенне, звярнуць увагу на асноўныя жыццёвыя крокі. Патрэбна засяродзіцца і на сучаснасці: культурным, эканамічным, сацыяльным жыцці, спыніцца на адметных рысах мясцовых жыхароў, пашукаць знакамітых выхадцаў, творцаў, якія шмат намаганняў прыклалі дзеля развіцця і праслаўлення краю. Але калі звярнуць увагу на фактычна неабмежаваную колькасць матэрыялу і значна абмежаваны аб'ём выдання, працэс падрыхтоўкі альбома падасца намнога больш складаным.**




Тым не менш калектыў, які працаваў над альбомам «Заслаўе. На ростанях стагоддзяў», што днямі пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда», выканаў заданне на «выдатна». Аўтар тэксту Уладзімір Бацкалевіч лаканічна і змястоўна распавёў пра асноўныя этапы гісторыі і сучаснасці Заслаўя. Фотамастакі Надзея Бужан і Анатоль Кляшчук зрабілі бліскучыя фотаздымкі, а дызайнер Георгій Шаблюк распрацаваў якасны макет кнігі, дзе ўсё лагічна, прыгожа і паслядоўна. У выніку невялікі па аб'ёме альбом — усяго 160 старонак — здольны адказаць фактычна на любое пытанне пра Заслаўе. Пагартаем выданне разам.

Аматарам лаканічнага выкладання гісторыі мясцін прыйдзецца даспадобы «Летапіс горада». Пачынаецца ён з 1127 года, калі ў пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца Заслаўскае княства, і доўжыцца да верасня 2014 года, калі тут адзначаюць Дзень беларускага пісьменства. Аўтар тэксту распавядае, што Заслаўю ў наступным годзе споўніцца 1030 гадоў. «Яго роля ў лёсах Кіеўскай Русі, а затым старажытнарускай дзяржавы вельмі значная, — піша Уладзімір Бацкалевіч. — Менавіта сюды была сасланая кіеўскім князем Уладзімірам гвалтоўна ўзятая ім у жонкі прыгажуня-палачанка Рагнеда з сынам Ізяславам, чыё імя дало назву паселішчу».

Прыхільнікам старых фотаздымкаў таксама ёсць на што паглядзець. Архіўныя фота пачатку XX ст. распавядаюць пра гісторыю храмаў старажытнага горада. Геральдысты ж даведаюцца, што сімвал Заслаўя выглядае наступным чынам: «на чырвоным полі «венгерскага» шчыта, які ўпершыню сустракаецца ў Венгрыі (1686 г.), мадыфікаванага ад іспанскага тыпу — залаты трызубец князя Ізяслава Уладзіміравіча. Трызубец з'яўляўся кляймом князя Ізяслава Уладзіміравіча, у хрысціянстве зрэдку выкарыстоўваўся як сімвал Троіцы. Крыж трызубца прыблізна сімвалізуе прыняцце хрысціянства Ізяславам у Полацкім княстве — калысцы беларускай дзяржаўнасці».

Старажытны горад хавае мноства таямніц, а ў яго будынках можна знайсці сапраўдныя скарбы. Так, адна з загадак Заслаўя — месца размяшчэння магілы Рагнеды. Дакладнай яе разгадкі не ведае ніхто, але мясцовыя жыхары «Магілай Рагнеды» называюць… гарадзішча «Замэчак». Гэтая сімвалічная магіла стала месцам паломніцтва не толькі праваслаўных хрысціян, але і ўсіх, хто шануе гісторыю горада.

Уразіць наведвальніка і гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе». У яго фондах сёння захоўваецца каля 16 тысяч музейных прадметаў. Дарэчы, менавіта гэты музей мае самую буйную ў Беларусі калекцыю маляваных дываноў — 234 адзінкі, 40 з іх — Язэпа Драздовіча, 11 — Алены Кіш.

А ці бачылі вы на ўласныя вочы банніка, дамавіка ці воха? Не? Я таксама, але дакладна ведаю, што некаторыя з гэтых міфічных істот жывуць у Заслаўі — у Дзіцячым музеі міфалогіі і лесу. Чаму б не завітаць. Тым больш што ў выпадку з Заслаўем ад віртуальнага падарожжа па горадзе да рэальнага — рукой падаць. Ці праехаць — усяго 25 кіламетраў на электрычцы!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## На паліцы




*Дзмітрый Пятровіч. Адзіноты пажоўклыя дні. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014.*

# «Маё Заслаўе, я заўжды з табою!»

Кніга стала добрым падарункам не толькі для самога паэта, але і для яго землякоў. Хто, як не яны, здольны найлепш адчуць і зразумець паэзію, што стваралася на вуліцах іх роднага горада, захапіцца прыгажосцю вобразаў, народжаных сузіраннем такіх знаёмых пейзажаў. Паэт, празаік, аўтар песень Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся ў Заслаўі — яму і прысвячае многія вершы са свайго новага зборніка:

*Калісьці тут узняўся на крыло,*
*Нібыта птушаня — я помню гэта —*
*І паляцеў над цэлым белым светам*
*І над радзімай, дзе маё жытло.*

Паэт сябе называе рамантыкам, але, падаецца, больш дакладна было б вызначыць яго творчасць як класічна-сентыментальную. Традыцыйны для беларускай паэзіі сілаба-танічны верш, тэмы паэта і паэзіі, пошуку натхнення, матывы трывогі за родны край і родную мову, захапленне харством прыроды і разам з тым шкадаванне, што вясна лірычнага героя ўжо прайшла, а наперадзе — восень… Паэт не адмяжоўваецца ад рэчаіснасці, не хаваецца за лірычнымі замалёўкамі, як гэта б зрабіў рамантык-сузіральнік. Наадварот, лірычны герой адчувае сябе часткай прыроды і разам з тым — часткай грамадства. У вершах ёсць і замілаванне «прывідным ранкам», «дываном з аблокаў», і заклік да мінакоў паглядзець навокал і ўбачыць чароўнае наваколле — з вышыні замкавай гары.

Першы раздзел кнігі «Пакуль са мной радзіма — я жыву» прасякнуты станоўчымі эмоцыямі, захапленнем лірычнага героя заслаўскімі пейзажамі. Яны натхняюць, дораць надзею. Але пазітыўны настрой з кожным раздзелам набывае адценні тугі, самоты, расчаравання. Нібыта разам са зменай пораў года лірычны герой змяняе вясновыя, яркія і станоўчыя, акуляры на восеньскія, сумныя і роспачныя.

Але ў заключным вершы зборніка ёсць такія радкі:

*Пакуль баліць душа паэта,*
*Яна — жывая.*

А гэта значыць, ёсць надзея на новую вясну.

**Чэслава ПАЛУЯН**

## Прэзентацыя

# Дзе жывуць легенды...

Рыхтаваць да Дня беларускага пісьменства адмысловыя зборнікі, прысвечаныя асвятленню літаратурнай гісторыі сталіцы свята і ваколіц, стала добрай традыцыяй у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Вось і сёлета адметная паліца серыі «Беларусь літаратурная» папоўнілася новым кніжным праектам — томікам «Горад майго сэрца: Заслаўшчына літаратурная».

Укладальнікам зборніка выступіў вядомы краязнаўца з Маладзечна, выдатны знаўца даўніны і апантаны кніжнік Міхась Казлоўскі. Таму чытачу не выпадае сумнявацца: пад вокладкай выдання сабраныя толькі лепшыя творы.

Як вядома, вытокі літаратуры — у фальклоры. Вось і кніга «Горад майго сэрца» пачынаецца з песняў заслаўскіх ваколіц. Тут прыводзяцца вяснянкі, валачобныя, купальскія, жніўныя, восеньскія спевы, а вядомая даследчыца і спявачка, выкладчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Наталля Матыліцкая ў артыкуле «Фальклорная традыцыя Заслаўшчыны» распавядае пра адметнасці фальклорных даследаванняў у гэтай мясцовасці.




Са старажытным паселішчам звязанае імя Сымона Буднага. У Заслаўі па запрашэнні тагачаснага ўладальніка горада Яна Глябовіча асветнік у 1570-х гадах жыў і прапаведаваў у рэфарматарскай абшчыне пры кальвінскім зборы. У выданні змешчаная крыху скарочаная версія прадмовы Сымона Буднага да яго славутага выдання — «Катэхізіса». Даследчыкі Адам Кіркор і Павел Шпілеўскі пакінулі пра Заслаўшчыну свае нататкі. Кніга знаёміць і з даследаваннямі нашых сучаснікаў, прысвечанымі гісторыі горада і ваколіц.

Укладальнік «Заслаўшчыны літаратурнай» Міхась Казлоўскі не абышоў увагай і постаць адной з самых славутых жанчын у гісторыі Беларусі. Пра яе лёс распавядаюць змешчаныя ў выданні «Легенда пра Рагнеду», урывак з даследавання Міколы Ермаловіча, фрагмент паэмы «Цары» Тараса Шаўчэнкі, паэма «Гарыслава» Янкі Купалы, а таксама іншыя творы беларускіх пісьменнікаў.

Са старонак кнігі чытачы даведаюцца і пра лёсы вядомых ураджэнцаў Заслаўя — намесніка старшыні прэзідыума Інстытута беларускай культуры Язэпа Каранеўскага, пісьменніка Хвядоса Шынклера, які загінуў на фронце ў кастрычніку 1942 года. Асобную частку выдання складаюць паэтычныя і празаічныя прысвячэнні гораду. Гэта вершы і эсэ ўраджэнцаў Заслаўя Святланы Быкавай, Дзмітрыя Пятровіча, урывак з аповесці Рамана Сабаленкі, вершы наведвальніка гэтых прыгожых мясцін Генадзя Пашкова.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Сустрэнемся на прэзентацыях

**Для айчынных выдавецтваў Дзень беларускага пісьменства — не проста магчымасць прадставіць самыя яркія выданні, але і шанц бліжэй пазнаёміцца са сваёй аўдыторыяй. Гэта радасць і для чытача. Разам з новымі кнігамі ў родны горад завітваюць любімыя пісьменнікі. Мы знаёмім чытачоў «Кніжнага свету» з выданнямі, якія будуць прэзентавацца на свяце, а таксама з яркімі праектамі, якія не варта абмінаць увагай.**

## ВЕЧНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ — ВЕЧНЫЯ СКАРБЫ

Выдавецтва **«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»** любіць здзіўляць публіку. Яго праекты грунтоўныя, маштабныя, рэалізацыя іх патрабуе глыбокіх ведаў, шырокіх даследаванняў. Але вынік працы заўсёды ўражвае — новыя кнігі выдавецтва мала хто адмовіцца паставіць на паліцу сваёй хатняй бібліятэкі. Сёлета «БелЭн» разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі прадставіць у Заслаўі новы сумесны праект. Гэта шыкоўнае выданне **«Кніжная спадчына Беларусі»** на беларускай, рускай і англійскай мовах.

«Нашы продкі не сышлі бясследна. Скарбы, пакінутыя мінулымі пакаленнямі, і сёння з'яўляюцца для нас, нашчадкаў, невычарпальнай крыніцай ведаў па гісторыі нашага народа, яго духоўным жыцці, — піша ў прадмове да выдання дырэктар НББ Раман Матульскі. — Кніжныя рарытэты сведчаць аб тым, што ў неверагодна цяжкіх гістарычных умовах народ здолеў захаваць родную мову, самабытную культуру, стварыць помнікі, якія маюць агульначалавечую каштоўнасць».

У цэнтры ўвагі выдання, натуральна, апынуліся кнігі. Рукапісныя і друкаваныя, старадрукі і рэпрынты, яны беражліва захоўваюцца ў галоўнай кніжніцы краіны. Фонд НББ сёння ўключае больш як 9 мільёнаў адзінак захоўвання на розных відах носьбітаў. У выданні «Кніжная спадчына Беларусі» ўпершыню ў такім шырокім аб'ёме прадстаўлены самыя каштоўныя асобнікі з Нацыянальнай бібліятэкі краіны.

На культурнай спадчыне акцэнтуе ўвагу і выдавецтва **«Беларусь»**. Выданне кніг гэтага тэматычнага кірунку — адзін з асноўных акцэнтаў працы ўстановы. Падчас Свята беларускага пісьменства жыхары і госці За-



слаўя атрымаюць магчымасць сустрэцца з кандыдатам мастацтвазнаўства, вядомым даследчыкам **Барысам Лазукам** і завітаць на прэзентацыю яго кнігі **«Слуцкія паясы. Адраджэнне традыцый»**.

Сам аўтар прызнаецца, што тэмай слуцкіх паясоў ён пачаў цікавіцца ўжо даўно, амаль тры дзесяцігоддзі таму. Займаючыся вывучэннем айчыннай матэрыяльнай культуры, выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, так ці інакш працаваў і са слуцкімі паясамі. З'яўленню кнігі таксама паспрыяла прыняцце дзяржаўнай праграмы «Слуцкія паясы» на 2012 — 2015 гады.

Адметнасць кнігі Барыса Андрэявіча ў тым, што ў ёй не толькі выкладаецца гісторыя слуцкіх паясоў, мануфактуры, гісторыя кандушовага строю (яго элементам



і быў слуцкі пояс), не толькі вядзецца размова пра арганізацыю вытворчасці, ролю Радзівілаў у гэтай справе — у выданні робіцца акцэнт на тым, што гэтае мастацтва, даволі вузкае і спецыфічнае, якое сфарміравала такую ўнікальную з'яву ў сусветнай культуры, як слуцкія паясы, жыве і сёння.

Разам з матэрыялам гісторыка-тэарэтычнага характару ў кнігу ўвайшлі прапановы аўтара, як можна ўвесці ў сучаснае жыццё мастацтва слуцкіх паясоў. Як прыклад — аздобленыя характэрным узорам нататнік у палатнянай вокладцы, велікоднае яйка, жаночы шаль, нават дыванкі для камп'ютарнай мышы.

## ПАДАРОЖЖА ПА БЕЛАРУСІ

Пагадзіцеся, нават доўгі час жывучы ў Беларусі, не кожны з нас можа пахваліцца глыбокімі і грунтоўнымі ведамі пра адметнасці гісторыі, геаграфіі краю, распавесці гасцям цікавыя моманты з мінуўшчыны ці зладзіць захапляльную экскурсію. Радуе той факт, што айчынныя выдавецтвы пачалі рыхтаваць усё больш і больш кніжных праектаў турыстычна-краязнаўчай скіраванасці. Магчыма, гэта звязана з павелічэннем колькасці замежных турыстаў, якія наведваюць нашу краіну, а можа — з імкненнем саміх беларусаў часцей падарожнічаць па роднай зямлі і больш пра яе даведвацца. Як бы ні было, калі ствараецца багатая прапанова, значыць, попыт на такія выданні ёсць.

Дарэчы, у Заслаўі будзе прадстаўлена некалькі новых краязнаўчых работ, альбомаў і турыстычных даведнікаў (ці, як іх яшчэ называюць, спадарожнікаў), у прыватнасці, кніга вядомага краязнаўцы, намесніка старшыні Беларускага таварыства экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў Таццяны Хвагінай **«Пінск — сэрца Палескага краю»**. Гэты праект быў не так даўно рэалізаваны ў выдавецтве **«Вышэйшая школа»**.

Па назве відаць, што кніга прысвечана «сталіцы» Палесся — старажытнаму Пінску. Гартаючы яе старонкі, чытач здзейсніць падарожжа па гістарычным цэнтры горада. Увага акцэнтуецца на ўсіх адметных рысах пінскіх ваколіц: таямніцах палескай прыроды, прыгажосці рэк і азёр, архаічных вёсачках, этнаграфічным багацці краю, старадаўніх маёнтках і парках, цэрквах і касцёлах, музеях вядомых людзей, лёсы якіх звязаны з Пінскам. Адлюстраваны тут і сучасны горад — яго адміністрацыйны, культурны і прамысловы цэнтры.

У выдавецтва **«Пачатковая школа»** таксама ёсць паспяхова рэалізаваныя гісторыка-асветныя і краязнаўчыя праекты. У ліку найбольш яркіх з іх варта адзначыць серыю **«Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі»**, кнігі ў межах якой распавядаюць пра гісторыю і сучаснасць, знаёмяць з выбітнымі дзеячамі. Адметна, што асноўнай аўдыторыяй такіх выданняў з'яўляюцца школьнікі. Тут адмыслова для дзяцей змешчаны заданні і пытанні, якія дапамогуць паўтарыць і лепш засвоіць матэрыял. Натуральна, кнігі серыі можна будзе пабачыць на стэндзе выдавецтва падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі.

Не абмінулі ўвагай выдаўцы і дарослых. Так, «Пачатковая школа» прапануе чытачам новыя турыстычныя даведнікі Наталлі Ванінай і Навума Гальпяровіча **«Запрашаем у Мінск»** і **«Запрашаем у Беларусь»**. Маршруты, распрацаваныя ў кнігах, дапамогуць гасцям сталіцы ці краіны ў цэлым пазнаёміцца з гісторыяй і культурай, пабачыць знакамітыя архітэктурныя помнікі, музейныя экспазіцыі. Вялікая колькасць фотаздымкаў дапаможа скласці цэласнае ўяўленне пра ўсе значныя мясціны, храмы, музеі і



помнікі. А інфармацыя для даведак (тут прыведзены адрасы музеяў, гасцініц, рэстаранаў і кавярняў) зробіць падарожжа больш камфортным.

## … І ВЫХАВАННЕ

Не застануцца без увагі падчас Свята беларускага пісьменства і самыя маленькія чытачы. Адмыслова для іх выдавецтвы рыхтуюць не проста прэзентацыі з удзелам аўтараў, а цэлыя тэатралізаваныя прадстаўленні, у якіх будуць дзейнічаць казачныя героі. Яркім акцэнтам праграмы **«Мастацкай літаратуры»** стане прэзентацыя дзіцячых кніг шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр **«Мама Му чытае»** і **«Мама Му танцуе»**. Адметна, што ў беларускамоўным перакладзе гэтыя выданні пабачылі свет з арыгінальнымі малюнкамі Свэна Нурдквіста. На свяце ў Заслаўі супрацоўнікі Барысаўскай дзіцячай бібліятэкі пакажуць цэлы спектакль паводле гэтых кніг. Думаецца, маленькім чытачам і гледачам прыйдзецца даспадобы вобраз добрай каровы Мамы Му, якая падкажа дзеткам: умееш чытаць — можна даведацца пра што заўгодна, ды гэта проста вельмі прыемны і вясёлы занятак — зрэшты, як і танцы!

Разам з выдавецтвам **«Адукацыя і выхаванне»** дзіцячы часопіс **«Вясёлка»** правядзе ў Заслаўі



прэзентацыю сумеснага праекта — кніжнай серыі **«Бібліятэка часопіса «Вясёлка»**. У яе межах выходзяць зборнікі твораў, што друкаваліся на старонках часопіса. А гэта ўжо 6 яркіх, цікавых і захапляльных выданняў. Усе кнігі серыі можна ўмоўна падзяліць на тры групы: творы класікаў дзіцячай літаратуры, нашых сучаснікаў, а таксама выданні, якія дапамогуць чытачам больш даведацца пра навакольны свет.

У ліку першых варта згадаць кнігу «У свеце дабрыні», складзеную з вершаў Эдзі Агняцвет. Гэта творы, праверяныя часам, на іх вырасла не адно пакаленне беларусаў. Яны і сёння вельмі цікавыя.

З другой катэгорыі — выданне Анатоля Зэкава «Кот жыве без турбот». Вядома, што катоў вельмі любяць дзеці. А значыць, на прыкладзе паводзін вусатага гарэзы можна неўпрыкмет навучыць дзіця правілам паводзін ды іншым важным рэчам. Менавіта такімі высновамі кіруецца пісьменнік, весела і няўрымсліва выкладаючы маленькім чытачам правілы добрых паводзін.

Кніга «Таямніцы Дзеда Усяведа» — з выданняў катэгорыі «забаўляйся і вучыся». Мудры Дзед Усявед адказвае на самыя складаныя пытанні ўнука. Чаму павукі жывуць так высока, што туды нават не падымаюцца птушкі? Якая самая вялікая жывёла на нашай планеце? Калі прыдумалі марожанае? Колькі навальніц можа быць адначасова? Не здзіўляйцеся, але дзед сапраўды ўсё ведае. Ён жа Усявед!

## ТАЯМНІЧАЯ ГІСТОРЫЯ

Выдаўцы адзначаюць, што ў беларускіх чытачоў з кожным годам павышаецца цікавасць да мінуўшчыны. Папулярнымі становяцца кнігі, дзе раскрываюцца загадкі, а факты падаюцца з нечаканых аспектаў. Таму і на паліцах кнігарняў з'яўляецца прыкметна больш новых гістарычных даследаванняў. Дарэчы, многія з іх можна будзе пабачыць на Свяце беларускага пісьменства ў Заслаўі.

Так, Выдавецкі дом **«Беларуская навука»** адным з асноўных напрамкаў сваёй працы лічыць падрыхтоўку айчынных гістарычных даследаванняў. Да прыкладу, на стэндзе выдавецтва можна будзе пабачыць новую калектыўную працу «Беларусь у Першай сусветнай вайне. 1914 — 1918», падрыхтаваную супрацоўнікамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі да 100-годдзя з пачатку Вялікай вайны. У ліку новых выдавецкіх праектаў будзе прадстаўлены працяг серыі «Старажытныя гарады Беларусі». Гэтым разам у цэнтры ўвагі гісторыкаў — горад Друцк.

Аднак не абыходзяць увагай выдаўцы і мастацкае асэнсаванне тэмы мінуўшчыны ў літаратуры. Так, сёлета ў «Беларускай навуцы» была перавыдадзена кніга Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы)». Тут жа пабачыў свет і новы раман Уладзіміра Гніламёдава «Вайна», прысвечаны паказу жыцця людзей на акупаванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Да тэмы гісторыі ў сваёй працы звяртаецца і выдавецтва **«Народная асвета»**. На стэндзе гэтай установы можна будзе пазнаёміцца з двума творамі **Канстанціна Мароза**. Гэта аповесць **«Таямніцы Нясвіжскага замка. Успаміны шляхціча Кшыштафа Ямінскага, блізкага сябра і баявога таварыша князя Дамініка, апошняга прамога нашчадка вялікага роду Радзівілаў»** і раман **«Узыходжанне да трону»**. У аповесці аўтар распавядае пра падзеі канца XVIII — першай паловы XIX стст., якія адбываліся на тэрыторыях, далучаных да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Напісаная ў форме ўспамінаў удзельніка тых падзей, яна перадае патрыятычны настрой шляхты на прыкладзе аднаго з самых уплывовых магнацкіх родаў — Радзівілаў, характарызуе іх пазіцыю ў вайне 1812 года. А раман пераносіць чытача ў 40 — 60-я гады XVIII ст., калі Рэччу Паспалітай кіраваў перадапошні кароль Аўгуст III.

## АДПАЧНЁМ У ЛІТКАВЯРНІ!

**Выдавецкі дом «Звязда»** вялікую ўвагу надае прадстаўленню рэспубліканскіх літаратурных выданняў: часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Вожык», газеты «Літаратура і мастацтва». Госці Заслаўя змогуць не толькі пагартаць іх старонкі, але і пазнаёміцца з галоўнымі рэдактарамі, распытаць тых пра планы на наступны год, аформіць падпіску і нават прапанаваць тэмы пра разгляд. Зрабіць гэта можна ў нядзелю на Цэнтральнай плошчы, дзе ў 10.30 адбудзецца імпрэза «Слова роднае, слова жывое», а таксама на Дзіцячай пляцоўцы ў 11.30, дзе будзе прэзентаваны пілотны выпуск «абноўленага» часопіса «Бярозка».

Дарэчы, у «Літкавярні» па вуліцы Савецкай і ў суботу, і ў нядзелю на працягу амаль цэлага дня можна будзе сустрэцца з аўтарамі Выдавецкага дома «Звязда», якія будуць прадстаўляць уласныя кнігі: **Кацярынай Хадасевіч-Лісавой, Анатолем Бутэвічам, Генадзем Аўласенкам, Дзмітрыем Пятровічам, Рагнедам Малахоўскім ды інш.** Так што не прапусціце магчымасці пагутарыць з любімымі творцамі, атрымаць аўтограф, паслухаць вершы сяброў літаратурных аб'яднанняў Міншчыны і паспяваць разам з удзельнікамі народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца».

Марына ВЕСЯЛУХА

# Алена БОБР: «Нашы чытачы — сучасныя»



**ТАА «Харвест» з'яўляецца самым буйным выдавецтвам нашай краіны. Летась тут пабачыла свет больш як 1200 назваў кніг агульным тыражом 6 мільёнаў асобнікаў. Можна сцвярджаць, што гэтая ўстанова ў некаторай ступені заканадаўца кніжнай моды ў краіне, а паспяховасць яе працы сведчыць пра запатрабаванасць выдавецкай прадукцыі ў сучасным грамадстве. Навіны і навінкі «Харвеста» мы сёння абмяркоўваем разам з намеснікам дырэктара па пытаннях гандлю Аленай Бобр.**

**— Алена Міхайлаўна, разглядаючы паліцы з выданнямі, я заўважаю, што цягам апошняга часу тут сталі ўсё часцей трапляцца беларускамоўныя кнігі. З чым гэта звязана?**

— Справа ў тым, што кніг на беларускай мове сёння сапраўды выдаецца мала. А паколькі мы шчыльна працуем з «Белкнігай», то ведаем, якія выданні запытваюць пакупнікі, што патрэбна спажыўцу і гандлю. Калі мы з вамі ў лютым размаўлялі пра нашы выдавецкія планы, то я распавядала, што да друку было падрыхтавна некалькі кніг беларускіх народных казак. Ужо выйшла 6 кніг для дзяцей сярэднага школьнага ўзросту на беларускай і рускай мовах, столькі ж — і для маленькіх чытачоў. Мы здалі ў друк Руска-беларускі (Беларуска-рускі) слоўнік. Рыхтуецца яшчэ некалькі новых праектаў для дзяцей. Апроч гэтага, працягваем выпуск серый кніг «Сучасны дэтэктыў» і «Сучасная фантастыка», а таксама «Бібліятэка дзіцячай літаратуры». У іх межах выходзяць творы аўтараў, якія пішуць па-беларуску. Таксама маем кола самастойных аўтараў, што прапаноўваюць даследаванні па гісторыі Беларусі на беларускай мове. Гэтыя кнігі запатрабаваныя, таму з задавальненнем іх друкуем. Рыхтуем выданні па замове Саюза пісьменнікаў Беларусі і асобныя праекты серыі «Беларускі кнігазбор».

**— Выпуск такіх кніг — ініцыятыва выдавецтва ці аўтараў?**

— Некаторыя праекты — наша ініцыятыва, але паўтаруся: ёсць аўтары, якія пішуць выключна на беларускай мове.

**— Ці можна лічыць беларускамоўныя праекты паспяховымі?**

— Так, многія кнігі прадаюцца досыць хутка.

**— Ці рыхтуе выдавецтва «Харвест» сваю праграму да Дня беларускага пісьменства?**

— Калі вы маеце на ўвазе нейкі адмысловы праект, то не. Мы заўсёды фарміруем стэнд разам з «Белкнігай», якая ў поўным аб'ёме прадстаўляе інтарэсы нашага выдавецтва і выстаўляе творы айчынных аўтараў ды кнігі, зробленыя для беларускага рынку.



**— Сярод гэтых выданняў будуць навінкі, якія чытачы ўпершыню пабачаць менавіта ў Заслаўі?**

— Так, у нас ёсць такія выданні. Натуральна, мы іх пакажам. Гэта новыя дзіцячыя энцыклапедыі, метадычныя дапаможнікі для дзяцей, кнігі для мам, якія падкажуць, як даглядаць немаўлят. У нас выйшла некалькі новых кніг серый «Невядомая гісторыя», «Бібліятэка дзіцячай літаратуры». Цікавы праект мы рэалізавалі разам з кампаніяй «Вест Ост Юнион» і сеткай крам «Буслік». Гэта 8 кніг для дзяцей, дзе распавядаецца гісторыя Бусліка. Кожнае наступнае выданне з'яўляецца працягам папярэдняга.

**— Якія планы адносна працы выдавецтва з беларускімі пісьменнікамі. Ці можна назваць супрацоўніцтва ў гэтым кірунку паспяховым?**

— Рыхтавалі і будзем рыхтаваць кнігі беларускіх аўтараў. З'яўляючыся буйным выдавецтвам, разумеем: хто, калі не мы? Не ўсе выданні можна назваць касавымі, але тым не менш «Харвест» гатовы падтрымліваць і папулярызаваць айчынных творцаў.

**— Ці змянілася за апошні час становішча на беларускім кніжным рынку? Цікавасць чытачоў узрасла ці, наадварот, знізілася?**

— Не скажу, што цікавасць да кнігі надта знізілася. Напэўна, у нашай краіне меней, чым дзе-небудзь яшчэ. Натуральна, уплываюць інтэрнэт і электронныя выданні. Аднак тых, хто чытае, яшчэ шмат. Нашы чытачы — сучасныя! Яны ведаюць аўтараў з розных краін і хочуць бачыць іх творы ў сваіх хатніх бібліятэках, а мы, у сваю чаргу, імкнёмся задаволіць іх попыт.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Камертон для душы

Серыя «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», што рыхтуецца выдавецтвам «Чатыры чвэрці», папоўнілася новым выданнем. Гэта кніга празаіка, сябра СПБ Уладзіміра Дарашэвіча «Заганы і пакаранні».

Імя гэтага аўтара для чытача не новае. Крыху раней пабачыла свет яго кніга «Грахі і суддзі», на старонках якой пісьменнік разважаў пра тое, што штурхае людзей на злачынствы, спрабаваў знайсці адказы на пытанне, як своечасова спыніцца на гэтым шляху. Рэальныя вострасюжэтныя гісторыі з вопыту працы следчага былі насычаны загадкавымі знікненнямі і злачынствамі. Аўтар спрабуе знайсці рашэнне няпростай задачы: як змагацца з недахопамі чалавечай натуры, штодзень назіраць заганныя паводзіны і пры гэтым самому заставацца маральна чыстым? Бо, па сутнасці, кожнае злачынства закранае не толькі ахвяру, самога злачынцу, але і суддзю.

Пагадзіцеся, выданні такога кшталту незвычайныя і нават нечаканыя для беларускага кніжнага рынку. У нас не прынята занадта ўнікаць у псіхалагічныя аспекты працы, няма завядзёнкі звяртацца па дапамогу да псіхолага ці псіхааналітыка. Сутыкнуўшыся з маральнымі ці маральна-этычнымі дылемамі, беларусы тым больш не будуць шукаць рашэнне ў кнігах. Самы звыклы для нас шлях — цёплая гутарка з сябрамі ці сваякамі, зварот да святара ці ананімныя перапіскі з такімі ж пакутнікамі ў інтэрнэце.

Але, думаецца, невыпадкова ў кнігарнях еўрапейскіх краін і ЗША так шмат выданняў з серыі «дапамажы сабе сам», якія падказваюць, дапамагаюць і могуць параіць выйсце не горш, чым псіхааналітык, бо аўтар сам прафесійны псіхолаг ці той, хто паспяхова пераадолеў падобныя цяжкасці. Да прыкладу, амерыканскі пісьменнік Уільям Стайран здабыў вялікую папулярнасць дзякуючы мемуарам «Бачная цемра» (*Darkness Visible*). На старонках кнігі аўтар шчыра і падрабязна распавядаў пра ўласны вопыт паспяховага змагання з дэпрэсіяй. Значыць, многім дапамагла кніга. Значыць, не адзін чытач зразумеў, што і з гэтага складанага становішча можа быць выйсце.

Дык чаму беларусы павінны абыходзіцца без дапаможнай літаратуры падобнага кшталту?

Нават калі гаворка не ідзе пра сур'ёзныя псіхалагічныя цяжкасці, штодзень чалавек сутыкаецца з мноствам складаных пытанняў. Як перамагчы зайздрасць, раўнадушша, ляноту? Чаму людзі замест даравання выбіраюць помсту? Чаму падманваюць, крадуць і не ўмеюць дзякаваць? Натуральна, кожны сам для сябе шукае адказы. Але хто можа гарантаваць, што гэтыя меркаванні правільныя, што злое нейкім чынам не пранікла ў нашу свядомасць? Думаецца, новая кніга Уладзіміра Дарашэвіча «Заганы і пакаранні» дапаможа расставіць акцэнты ў сітуацыях няпростага маральнага выбару.

Аўтар пранікае ў таямніцы асобы, даведваецца пра прычыны і матывы, што схіляюць чалавека да здзяйснення самых непрыстойных учынкаў. Акрамя таго, ён прыводзіць прыклады зваротнага працэсу, калі яшчэ можна спыніцца і не апынуцца «з іншага боку». Да прыкладу, вось што Уладзімір Дарашэвіч піша пра зайздрасць: «Нельга зайздрасць блытаць з прагаю да пашаны. Прага да пашаны таксама мае на мэце імкненне да руху ўверх, але не па лёсах людзей, а па калдобінах і канавах, пераадольваючы аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перашкоды, у тым ліку і тыя, што ствараюць зайздроснікі. Чалавек, які імкнецца да пашаны, горды і шчыры, высакародны і здольны на самаахвяру. Ён не будзе назіраць, як чалавек тоне ў ледзяной вадзе, а кінецца на дапамогу. Зайздроснік баязлівы, да таго ж ён будзе атрымліваць асалоду ад гібелі свайго сабрата».

Усё шчыра, адкрыта і лагічна. Без аніякіх алегорый, без прыдуманых герояў і гісторый, з якіх кожны сам для сябе мусіць вынесці нейкую мараль. Гэта і ёсць мараль у чыстым выглядзе, але калі для мастацкай літаратуры маралізатарства на такім узроўні амаль непрымальнае, то для псіхалагічнага эсэ гэта цалкам натуральна і нават патрэбна. Больш за тое, аўтар прыводзіць у кнізе рэальныя гісторыі, але падае іх пасля тэарэтычных раскладак.




І ўжо па новай, яскравай шкале «чорнага і белага» чалавек здольны не толькі ацаніць учынкі героя, але і ўбачыць сябе па-новаму. А значыць, ён атрымлівае магчымасць самаўдасканалення.

Дык чаму аўтар звярнуў увагу на недахопы чалавечай натуры і амаль пакінуў без увагі станоўчыя якасці? Вось як разважае пісьменнік у прадмове да выдання: «Канечне, тэма «Прыгожыя людзі» больш прыемная для даследавання і выкладання. Але камертон ад яе не заўсёды атрымліваецца, перш за ўсё там, дзе ён павінен быць без нагадвання. Больш за тое, іншым разам прыемныя думкі і добрыя ўчынкі — нібыта чырвоная ануча для грэшніка, а гэта, у сваю чаргу, з'яўляецца «лакмусавай паперкай» для выяўлення такіх людзей». Ды аўтар мае на мэце не злаваць кепскіх людзей, ён імкнецца знізіць іх негатыўны ўплыў на грамадства.

Задача не з простых, ды будзем спадзявацца, што яна будзе выкананая.

**Юзэфа ВОЎК**

# Быць зразумелым для ўсіх

**У Дзень беларускага пісьменства апроч іншых доўгачаканых і цікавых кніжных падзей адбудзецца прэзентацыя першага нумара альманаха «Сугучча», што выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда».**

У альманах увайшлі творы пісьменнікаў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана і інш. Літаратары старэйшага пакалення не раз наракалі на сённяшнюю ізаляванасць, страту творчага сяброўства, здавалася б, непарушнага. Такім чынам, «Сугучча» — не проста літаратурны альманах і не проста альманах міжнацыянальны, але і працяг вялікай справы.

Альманах уключае творы аўтараў як сталых, так і маладых, паэтаў і празаікаў, публіцыстаў. Канечне, па некалькіх тэкстах складана меркаваць пра літаратуру цэлай краіны. Тым не менш першы нумар «Сугучча» дазваляе скласці пэўнае ўяўленне пра літаратуры краін былога Саюза.

Так, напрыклад, Азербайджан прадстаўляе Чынгіз Аліаглу, чые вершы прысвечаны рэчам, зразумелым кожнаму: любові да сваёй краіны; захапленню жанчынай, перадусім яе мужнасцю, якая дзіўным чынам спалучаецца з безабароннасцю; жыццю ў шырокім сэнсе — яго метамарфозам, парадоксам і законам. Пісьменнік перастварае свае назіранні ў своеасаблівую паэтычную канстатацыю; ці не такі ж падыход уласцівы беларускаму вершасkладанню?

Эдвард Мілітанян, армянскі паэт, ад рыфмы і канстатацыі адмаўляецца. Ён назірае не за рэчыўным светам, але за прыродай чалавека, што немінуча прыводзіць яго да філасофскіх развагаў, як правіла, невясёлых, але вельмі трапных. «Катают бочку и старый и малый. / Хохочут. Гвалт стоит небывалый. // Да и как её не катить, если можно? / Бочка ведь круглая, это не сложно. // Что же тут — спросите вы — смешного? / А в ней — Диоген. Тот самый. Снова».

Беларускі бок прадстаўлены апавяданнем Алены Беланожкі «Грэбень у скрыні» (твор стаў адным з пераможцаў міжнароднага конкурсу «Мост дружбы» ў мінулым годзе) і перакладамі на рускую мову славутых радкоў Францыска Скарыны з прадмовы да кнігі «Юдзіф»: «зверы, што блукаюць у пушчы, ведаюць норы свае…»

Апавяданне «Водар малака» Каліхама Іскакава (Казахстан) — пра чалавека, які прыязджае з вялікага і чужога горада ў маленькі і свой. Такія гісторыі добра вядомы беларускаму чытачу, толькі замест Мінска мы чытаем пра Алматы, а замест маленькай вёскі бачым аул. Тут і вялікая сям'я, і старая клапатлівая бабуля, і вясковыя клопаты, і перажыванні ды ўспаміны чалавека, які, жывучы ў горадзе, бачыць адно, а вяртаючыся дадому — іншае. «Ах, как хорошо в ауле!» — не раз уздыхае адзін з герояў апавядання. Тое ж і ў паэзіі, прадстаўленай творамі Валерыя Міхайлава і Любові Шашковай, — захапленне прыродай, словы шчырай любові да радзімы.

Кыргызскія творцы падрыхтавалі для будучых чытачоў альманаха сюрпрыз — гутарку пісьменнікаў Чынгіза Айтматава і Мухтара Шаханава. Гэта безумоўна, удалая форма: так чытач можа пазнаёміцца з літаратурай Кыргызстана, даведацца пра погляд пісьменнікаў на мастацтва, грамадства і змены ў іх пасля дзяржаўных пераўтварэнняў у 1990-я гады (гутарка адбылася ў сакавіку 1995 — жніўні 1996 года). І артыкул Георгія Хлыпенкі «Славянскі свет у часопісе «Літаратурны Кыргызстан» — працяг размовы пра літаратуру.

Празаік і драматург з Рэспублікі Малдова Іон Друцэ надрукаваў успаміны, звязаныя з імем Льва Талстога, але насамрэч апавяданне не пра класіка рускай літаратуры, але пра дзіўныя сувязі і супадзенні ў жыцці чалавека, пра суседства высокага і нізкага, узвышанага і смешнага. Спадар Іон прыгадвае вандроўку ў Ясную Паляну, візіт у старую маскоўскую кнігарню, — і ціха пасмейваецца — з сябе ды іншых.

> **Альманах уключае творы аўтараў як сталых, так і маладых, паэтаў і празаікаў, публіцыстаў. Канечне, па некалькіх тэкстах складана меркаваць пра літаратуру цэлай краіны. Тым не менш першы нумар «Сугучча» дазваляе скласці пэўнае ўяўленне пра літаратуры краін былога Саюза.**

Расійскі пісьменнік Валерый Казакоў працягвае вясковую тэму: дастаткова паглядзець на падзагалоўкі ў яго аповесці «Под мерны скрып нябачных колаў», каб адчуць настрой твора: «Реста», «Сенокос», «Сеновал», «Самогонка», «По чернику», «Лазьня», «Бабушки», «СШ № 24». Пра далёкіх продкаў і характво прыроды распавядае Уладзімір Крупін; пра жыццё табуншчыкаў — Вячаслаў Ар-Сяргі. Паэзію Расіі прадстаўляюць таксама Мікалай Дабранраваў, Лула Куні і Хазан Тхазёплаў.




Гісторыі людзей — звычайных і ў той жа час адметных — распавядаюць таджыкскі пісьменнік Ато Хамдам і аўтар з Туркменіі Агагельды Аланазараў. Узбекскую паэзію прадстаўляе Абдула Арыпаў, і зноў жа, беларускаму чытачу пададуцца знаёмымі вершы пра Радзіму, маці, родную мову.

Добрыя, часам і трагічныя, і смешныя апавяданні надрукавалі ўкраінскія празаікі Віктар Баранаў, Уладзімір Даніленка і Галіна Тарасюк.

Значную частку альманаха складаюць публіцыстычныя і даследчыцкія працы, прысвечаныя літаратуры пэўнай краіны, літаратурным сувязям.

Такім чынам, назва альманаха выбраная невыпадкова: сугучча — у бачанні свету, у каштоўнасцях, у мастацтве і нават у побыце — сапраўды існуе, і вельмі важна памятаць і адчуць гэтае сугучча цяпер.

**Магда ПАСКЕВІЧ**

# Масква, Кутузаўскі, 45…



*Мікіта Сусловіч. Фота з сямейнага архіва.*

«В Бресте ранняя весна, / Робкая трава… / А над Бугом тишина, / И в руинах спит война. / Мама, ты жива?!.» Гэтыя радкі — з апошняй, ці, дакладней, з першай пасмяротнай кнігі Мікіты Рафаілавіча Сусловіча (1935 — 1986), які нарадзіўся ў Мінску. І назва кнігі — «Трэцяя пара года» (Масква, «Советский писатель», 1989). Прадмову да зборніка — «Мора і любоў» — напісаў паэт Мікалай Флёраў: «Мікіта Сусловіч быў сапраўдным паэтам флоту. Я нават не пішу ваенна-марскога флоту, пашыраючы гэта вызначэнне да параходаў, якія курсіруюць па марах і акіянах, да суднаў, якія прабіваюцца праз арктычныя льды, да малых сейнераў, у тралах якіх адбіваецца срэбрам толькі што злоўленая рыба. Усе маракі, дзе б ім ні даводзілася сустракацца з Мікітам Сусловічам, адразу станавіліся яго сябрамі, таму што паэт быў чалавекам выключнай таварыскасці, дружалюбства, удзячнасці, абавязку і доўгу. Гэтыя якасці ў многім выхаваны ваенна-марской службай, якой ён аддаў шмат гадоў свядомага жыцця. На службе ён і стаў такім чалавекам, флоцкім паэтам…» — піша Мікалай Флёраў.

Пра сваю «беларускасць» Мікіта Сусловіч выказаўся так: «Мама в Бресте родилась, / В Минске родила. / С незабытым домом связь / Ни на миг не прервалась, / Через жизнь прошла. / В том далёком далеке, / В изначальный срок, / Написали на листке, / Прикрепив к моей руке, — / «Хлопчик Голоскок». Галаскок — прозвішча дзеда Мікіты Сусловіча, прозвішча матулі.

Перад Вялікай Айчыннай вайною Мікіта разам з маці апынуўся ў Ленінградзе. Блакаднае дзяцінства, школьныя гады ў паўночнай сталіцы, праца на Кіраўскім заводзе, курсанцкае юнацтва… Усё звязана з Ленінградам. Але жыла ў свядомасці Мікіты і памяць пра Мінск, Беларусь, свайго дзеда — Мікіту Васільевіча Галаскока («И снимок: / Он стоит у паровоза / С промасленною ветошью / В руке. / В селе под Брестом / Старая ракита, / Колёс вагонных / Неостывший след…»). Пра свайго прашчура Мікіта Сусловіч напісаў верш «Мой дзед».

У час службы на Балтыйскім флоце М. Сусловіч завочна закончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Вершы флоцкага літаратара друкаваліся ў часопісах «Звезда», «Нева», «Октябрь», «Юность», у калектыўных зборніках, у альманаху «Дзень паэзіі». Пабачылі свет асобныя вершаваныя зборнікі — «Расіі маёй рубеж», «Дзень на караблі», «Добры свет», «Азбука мора», «Памятныя вятры», «Праліў Надзеі»…

Для мяне Мікіту Сусловіча «адкрыў» беларускі паэт Сяргей Сцяпанавіч Панізнік. Яны сустрэліся на БАМе ў творчай паездцы. Вось і запіска з адрасам — аркуш з блакнота ў клетачку: «121 170, Москва, Кутузовский пр., д. 45, кв. 42, Суслович Никита Рафаилович…» Далей ідуць тэлефоны: хатні, кабінетны, тэлефоны дзяжурнага… Тады М. Сусловіч служыў у палітупраўленні ваенна-марскога флоту СССР. Шмат ездзіў у службовыя і творчыя камандзіроўкі. У адной з іх — на БАМе — і пазнаёміўся з Сяргеем Панізнікам. Як пазнака тае сустрэчы засталіся фотаздымкі. Яны пазначаны чэрвенем 1985 года, Мікіта Сусловіч




адправіў беларускаму калегу па паэтычным цэху сваю новую вершаваную кнігу. На тытульным аркушы — надпіс: «Дарагому Сяржу Панізніку з братэрскімі і бамаўскімі пачуццямі сардэчнай дружбы — ад мінчаніна Мік. Сусловіча».

Адзін з вершаў флоцкага паэта на беларускую мову пераклаў Хведар Жычка — «Ноччу ў моры»:

*Ноч нібыта казачная небыль.*
*Дрэмлюць неспакойныя вятры…*
*Мне б цяпер над гэтым летнім небам*
*Цалавацца ў полі да зары,*
*Любавацца, як з вярбою ў пары*
*Дуб згінае голле да зямлі…*
*Наш пражэктар далягляд абшарыў,*
*І загаманілі дызялі.*
*Ледзь заўважна ў першы раз хіснула,*
*Бераг ціха ў цемру спаць пайшоў,*
*З мора жменю пырскаў чарпанула*
*Зорная Мядзведзіца каўшом.*

А 1 кастрычніка 1986 года «Литературная газета» надрукавала невялікі некралог «М. Р. Сусловіч». У ім — і такія словы: «Паэзію Мікіты Сусловіча добра ведалі не толькі ваенныя маракі, але і шырокае кола чытачоў. За доўгую службу на ваенна-марскім флоце, у шэрагах якога ён заставаўся да апошніх дзён, Мікіта Сусловіч быў узнагароджаны дванаццаццю медалямі, сярод іх медаль «За баявыя заслугі». Мы перакананы, што паэту-мараку і яго вершам наканавана доўгая памяць».

Будзем спазявацца, што Мікіту Сусловіча яшчэ адкрыюць і беларускія чытачы. Сапраўды, яго выразная, адкрытая, сардэчная паэзія гэтага вартая.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Лула КУНІ: «Літаратуру ніхто не адмяняў»

**Лула Куні — вядомая чачэнская паэтэса, перакладчыца. Галоўны рэдактар мастацка-публіцыстычнага часопіса «Нана». Жыве і працуе ў Грозным. Шмат сіл і намаганняў прыкладае для прапаганды беларускай літаратуры на Каўказе. Займаецца перакладамі беларускай паэзіі на чачэнскую мову. З Лулай Куні сустрэўся наш карэспандэнт.**

**— Лула, ці ведаюць у Чачні беларускую літаратуру? Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Алесь Адамовіч, Янка Купала, Якуб Колас… Ці знаёмы чачэнскаму чытачу гэтыя імёны?**

— Калі меркаваць па сваім школьным і універсітэцкім вопыце — і ведалі, і любілі! Відаць, таму, што наша пакаленне — «прадукт» савецкай народнай адукацыі і, адпаведна, беларуская літаратура была нам блізкая. Што да сённяшніх юных чытачоў і аматараў прыгожага пісьменства, то магу хіба казаць пра тое, што ў нейкай ступені яны вельмі агульна знаёмыя з творчасцю беларускіх класікаў.

Шмат змянілася ў сучаснай расійскай школе, у тым ліку і адносіны да літаратур брацкіх народаў (для мяне такое вызначэнне зусім не дэкларатыўнае): з разраду асноўных гадзін літаратура народаў СССР ці літаратура постсавецкіх дзяржаў перайшла ў разрад факультатыву.

Сёння — ва ўмовах вымушанага «развядзення мастоў» між народамі былога Саюза — шмат якія імёны літаратараў, чые творы маглі б лічыцца ў пэўнай ступені квінтэсэнцыяй нацыянальнай ментальнасці, сталі для маладых чачэнскіх чытачоў проста імёнамі… На жаль…

**— А наколькі актыўна цяпер перакладаюць чачэнскіх аўтараў на рускую мову?**

— Не так актыўна, як хацелася б. І як трэба было б. Чачэнскія пісьменнікі самі ў актыўным пошуку перакладчыкаў на рускую мову. І гэта нягледзячы на тое, што яны ёсць і дастаткова прадуктыўна працуюць. Аднак попыт перавышае магчымасці мясцовага цэха перакладчыкаў: працэнт іх не дужа вялікі, каб вырашыць праблему масавага перакладу твораў чачэнскіх аўтараў. У свой час многія чачэнскія пісьменнікі, чые творы ўвайшлі ў класічны фонд нацыянальнай літаратуры, выходзілі і да шырокага расійскага чытача дзякуючы перакладчыкам з «цэнтра» і калегам-літаратарам са складу мясцовага Саюза пісьменнікаў.

У мінулыя гады рэспубліка накіроўвала ў маскоўскі Літінстытут імя М. Горкага — па дамоўленасці з кіраўніцтвам гэтай ВНУ — групы маладых людзей для навучання на факультэт перакладу. На жаль, мала хто з іх стаў прафесійным перакладчыкам. І прычына, пэўна, не ў адсутнасці жадання працаваць у дадзеным кірунку, а, хутчэй, у тым, што іх праца ў некаторы момант стала раўназначнай падзвіжніцтву (калі гаварыць пра ўзровень аплаты і захаванне правоў перакладчыкаў).

У нас яшчэ не выпрацаваны разгорнутыя нарматыўныя акты, якія маглі б рэгуляваць дамоўныя абавязацельствы паміж аўтарам і перакладчыкам, а тыя, што існуюць, не ўлічваюцца. Тандэм «аўтар — перакладчык» можа існаваць, пакуль перакладчык супрацоўнічае з літаратарам на ўзроўні сяброўскай паслугі ці па прынцыпе «дамовімся пасвойску». Але калі мы арганізуем сапраўдную працу ў гэтым кірунку, то павінны паклапаціцца аб правах перакладчыкаў. У сучасных рынкавых умовах гэта вельмі важна.

**— Мастацкі пераклад… Ці можа ён увогуле збліжаць, яднаць народы, паўплываць на добрыя адносіны паміж носьбітамі розных рэлігійных перакананняў?**

— Думаю, адказ на гэтае пытанне можа быць толькі станоўчым з афектным клічнікам. Літаратура мае дзіўную здольнасць раскрываць чалавечыя сэрцы. «Уключаць» адначасна і мозг, і душу… Розныя рэлігійныя перакананні?.. Не такія яны ўжо і розныя. Мы — у масе сваёй — людзі Пісання. І этычныя максімы ў нас ідэнтычныя. Прыхільнасць Адзінаму Тварцу ўжо само па сабе ёсць прызнанне маральнага імператыва, яно дае народам вектар духоўнага развіцця, самаўдасканальвання, спрыяе іх яднанню. Мы — літаральна — народы Слова. Менавіта таму літаратура для нас — сутнасць адлюстравання нашага нацыянальнага «эга».

**— А каго з чачэнскіх класікаў вы параілі б перакласці на беларускую мову? Ці стаў бы чачэнец дзякуючы літаратуры болей зразумелы беларусам?**

— Калі гаварыць пра класікаў літаратуры нахчы, можна з упэўненасцю агучыць цэлы шэраг імёнаў. Я ўзгадваю толькі некалькі: Магамед Салех Гадаеў, Саід Бадуеў, Халід Ашаеў, Магамет Мамакаеў, Абдул-Хамід Хамідаў, Абузар Айдаміраў… Творчасць кожнага з іх «высвечвае» пэўную грань этнадушы народа нахчы… Думаю, што са мною пагодзяцца тыя, хто ставіць сабе за мэту зразумець нашу сутнасць… Менавіта па творах гэтых чачэнскіх класікаў будучыя куўе ад літаратуразнаўства змогуць узнавіць без скажэнняў наш этнічны партрэт.

**— Наколькі паспяхова чачэнская літаратура засвойвае электронную прастору? Яшчэ не зусім састарэла ў вас друкаваная кніга?**

— Што цікава, чачэнскія пісьменнікі хутчэй засвоілі інтэрнэт, чым іх калегі па каўказскім рэгіёне. Пераканаліся: рукапісы ўсё ж гараць… Некалькі мяхоў маіх рукапісаў забрала вайна. Было смешна да істэрыкі, калі бачыла ў разбураным мінамі двары невялікае вогнішча (нехта вырашыў передыхнуць ад бамбёжкі ў напаўразбураным доме, пакуль яго гаспадары — а гэта былі мы — бегалі ў пошуках прытулку па разбураным цэнтры горада). А ў вогнішчы — сярод попелу іншых рукапісаў — абгарэлыя лісточкі маёй пафаснай юначай паэмы… Прызнацца, не асабліва шкадую пра згубленае, страчанае. Думаю мае чытачы такім чынам пазбавіліся знаёмства з мноствам незавершаных экзерсісаў.

А пра друкаваную кнігу... Не думаю, што яна ўвогуле можа састарэць. Кажу гэта як чалавек, які другі дзясятак гадоў глядзіць у манітор. Бывае, гэты занятак надакучвае да чорцікаў у вачах. І тады яго з велізарнай асалодай мяняеш на трапяткую, «жывую» ў тваіх руках, старую добрую кнігу. Чалавецтва доўга і з цяжкасцю развітваецца з тым, што праверана часам.

**— Літаратура сёння… Наколькі, на ваш погляд, моцныя магчымасці яе ўплыву на грамадства, соцыум?**

— Баязлівасць сучасных літаратараў пазбавіцца ўплыву на розум сучасніка мне падаецца крыху надуманай. Прайшлі часы манаполіі дзяржавы на «генеральную лінію» ў галовах яе грамадзян. Свет шматпалярны. Мы — і чытачы, і літаратары — далёка не тыя, што ўчора. Чытач мае права на выбар. І права на павагу да сябе з боку таго, хто піша, права на нейкую, калі хочаце, парытэтнасць.

Мы прызвычаіліся да пафаснасці сваёй ролі за гады СССР. Але любы пафас з цягам часу становіцца падманам «у імя». «Інжынераў чалавечых душ» з нас не атрымалася — і выдатна… Як і не атрымался «чесных зерцал» — на вялікі жаль… Напэўна, таму, што мы — прадукт свайго часу. Але мы павінны быць роўнавялікія не чытачу (ён часта драбнее, становіцца часткай натоўпу, які спявае на плошчы чарговую малітву чарговым прусакам) — мы павінны быць роўнавялікія Часу. Часу, дадзенага нам Богам, — для ўчынкаў, для асэнсавання значнасці самога жыцця, часу ў нас і нас у часе. Менавіта тады мы будзем цікавыя чытачу. І грамадству ў цэлым.

А магчымасці Літаратуры — не падробак — сапраўды вялікія… Інакш наша нацыя, якая перажыла дзесяцігоддзі крывавай бойні, не перажывала б усплёскі крэатыўнай энергіі. Кожны дзень нашы рэдакцыі, асабліва ў першыя пасляваенныя гады, даймалі аўтары — рознага ўзросту, сацыяльнага становішча (хаця, калі папраўдзе, становішча ва ўсіх было аднолькавае — пасляваенная жабрацтва), рознага ўзроўню адоранасці…

**— Людзям трэба было выказацца…**

— Літаратуру — як нейкі глыток паветра, як магутны сродак духоўнага ўзнаўлення, своеасаблівага катарсісу — ніхто не адмяняў…

Рэлігія, літаратура, мастацтва… Гэта ўсё надзвычай важныя рэчы для нацыі, якая аказалася перад праблемай духоўнага адраджэння, якая шукае шляхі выхаду з бясконцага тунэля пакут і падманаў.

Мяне некалі вельмі закранулі радкі з «Малітвы» Янкі Купалы:

*Я буду маліцца і сэрцам,*
*і думамі,*
*Распетаю буду*
*маліцца душой,*
*Каб чорныя долі*
*з мяцеліцаў шумамі*
*Ўжо больш не шалелі*
*над роднай зямлёй.*

**— Напэўна, кожны з нас, хто ўзяўся за пяро, адчувае адказнасць за кожнае напісанае слова. Бо — праз жыццё — Слова будзе ўзважана і адмерана на вагах.**

— Няхай так яно і будзе.

**Гутарыў Сяргей ЗАЛАМАЙ**

**Мікалай Старадымаў, член Саюза пісьменнікаў Расіі:**

*«У часопіса «Нана» (як і ў пераважнай большасці іншых выданняў) цалкам вызначаная аўдыторыя. І надта мала шанцаў, што яго прачытае чалавек, які знаходзіцца паза гэтым колам. А сапраўды, калі б чыталі падобныя выданні маладыя людзі ў іншых рэгіёнах Расіі, хутчэй за ўсё, з азначэннем «чачэнскі» ў іх свядомасці спалучаліся б назоўнікі куды больш шырокага дыяпазону, чым цяпер. Таму што павага да іншай нацыі фарміруецца ў чалавека толькі праз культуру, праз узаемапранікненне культур. Чалавек, знаёмы з творчасцю Лесі Украінкі, Петруся Броўкі, Чабуа Аміраджыбі, Зорыя Балаяна, Чакана Валіханава ці Махтумкулі, ніколі не выкажа абагульненай пагарды на адрас іншай нацыі».*

samaralit.ru

## Лула КУНІ

### Дом

*Гэты Дом спарахнелы,*
*як нашыя душы,*
*Недаверам,*
*клопатам ды маной.*
*Гэты Дом стаміўся:*
*ў ім цесна, душна,*
*Тут пахне крывёю й чужой віной.*
*У сценах ягоных*
*блукае вецер,*
*У сценах ягоных стаіўся стогн…*
*Калі кажуць: вайна —*
*гэта трэба… Дзеці*
*У вайну хай гуляюць,*
*дарослым — нашто?*
*Гэты Дом не каштуе*
*крывавых аблокаў.*
*Гэты Дом не патоля —*
*у нашай журбе.*
*Дом на магілках. Лёгка*
*Стаяць тут начамі*
*І слухаць, як плачуць*
*не па табе?*

### Шлях

*Вецер паўночны, што дыхае прахалодай,*
*скроняў не астудзіў.*
*Соль і пясок на вуснах —*
*паўсюдна пясок — глядзі!*
*Сонца хавае позірк —*
*не верыць,*
*што будзе ноч.*
*Горача. Так бясконца горача.*
*І ў ваду віно*
*Няма каму ператварыць…*
*Толькі ў кубку зорным*
*Вера твая — і ты кленчыш,*
*каб ані кроплі з гэтага цуда-збору*
*Не пралілося міма…*
*Ці ж ты не бачыў,*
*Натоўп за табою?.. Ды…*
*Дзе твой посах?.. Чаго ж ты плачаш?..*

.................................................

*Вецер паўночны сцішыўся ў сэрцы.*
*Стоды стаяць нязрушна.*

***

*— Птушка,*
*У сіняе неба ўзлятаючы,*
*Ты далягляды робіш далейшымі.*
*Ведаеш?*
*«Неба чакае!» — ты кажаш,*
*Ды тое, што побач, губляеш.*
*Не дбаеш?..*

*Путы твае — прыцягненне зямное.*
*Ты вырвіся, абарві!*
*Крылы трымаюць толькі трывалых,*
*Толькі жывых.*
*— Птушка,*
*Дурненькая мая птушка.*
*Ты думаеш слушна*
*Усё, што ты чуеш,*
*і мёдам ягонай гамонкі,*
*І словамі звонкімі*
*Ты жывішся сёння, забылася,*
*што ты — птушка,*
*Толькі птушка, і ў тысячаў продкаў*
*тваіх — крылатыя душы…*

.................................................

*— Птушка! Ты — птушка!*
*І ты асалоду палёту*
*Мусіш напоўніцу зведаць,*
*забыць пра зямныя гаркоты*

.................................................

*— …Што, птушачка?*
*Што, мая мілая птушка?*
*Дай я ў далонях сагрэю цябе, не прымушу*
*Болей і думаць пра неба…*
*Такая нядоля —*
*Марыць пра неба,*
*марыць пра зоры і волю.*
*…Птушачка, ты ж загінеш*
*Не па сваёй правіне!*
*Мілая, дзіўная птушка…*

***

*Турчанка біла ў бубен. Залаты.*
*І дайкі прысмак спёкі смажыў вусны.*
*Па-над Басфорам зорныя масты,*
*Багі, якімі крочаць, — шоўк і мускус…*
*Зурнач. Чайханшчык. У людскім віры,*
*Дзе ўсім адмерана па жарсці —*
*ці гарыць…*

.................................................

*Разлі, Еўразія, свой смутак па кілішках*
*І пагуляй з мінулым —*
*цоп ці лішка?*

**З чачэнскай мовы.**
**Пераклад Таццяны Сівец**

# У ракурсе няпростых змен

**Панка Анчаў — адзін з вядомых балгарскіх літаратуразнаўцаў, доктар філалагічных навук. Мы сустрэліся з ім у Санкт-Пецярбургу, на традыцыйным кніжным салоне. Разам удзельнічалі ў «круглым стале», прысвечаным славянскім літаратурам. Тады і вырашылі данесці некаторыя думкі да чытача.**



**— Спадар Панка, скажыце, калі ласка, чым характарызуецца балгарская літаратура? Якія найбольш яскравыя творы з'явіліся за апошні час?**

— Яна ўсё яшчэ перажывае глыбінныя змены. Сёння амаль немагчыма агледзець яе ў цэлым — па краіне шмат тых, хто піша, але няма магчымасці прачытаць усё, што выдаецца ў сталіцы і правінцыі. А сярод малавядомых і зусім невядомых аўтараў, відаць, ёсць і таленты.

Дзякуй богу, жывыя і яшчэ працуюць, друкуюцца нашы старэйшыя паэты — Валеры Петраў, Найдзен Вылчаў, Ліляна Стэфанава, Любамір Леўчаў, Георгі Канстанцінаў, раманісты — Антон Дончаў і Сіміян Янеў. Яны ствараюць выдатныя кнігі. І сярод маладых ёсць добрыя аўтары, якія працягваюць рэалістычныя традыцыі нашай літаратуры: Валянціна Радзінска, Паруш Парушаў, Мікалай Мілчаў, Бойка Ламбоўскі, Віялета Хрыстава, Сібіла Алексава, Біна Калс, Дзімітр Калеў, Георгі Ангелаў ды іншыя.

Вельмі моцная постмадэрнісцкая лінія ў сучаснай балгарскай літаратуры. Постмадэрністы атрымліваюць фінансавую падтрымку ад розных няўрадавых арганізацый кшталту «Свабоднага грамадства». На іх поспех працуе рэклама. Іх адзначаюць вялікімі — па грашовых памерах — літаратурнымі прэміямі. На жаль, чытачы ведаюць іх лепей, чым творцаў рэалістычнага кірунку.

Літаратура і пісьменнік згубілі сваё прызначэнне і месца ў сучасным грамадскім жыцці.

**— Літаратурная моладзь... На якія прыярытэты арыентуецца яна?**

— Ёсць у нас таленавітыя маладыя людзі, але яны ўжо жывуць не так, як мы раней. Самы важны іх клопат — камерцыйны поспех. Яны ўмеюць рабіць добрыя прэзентацыі сваіх кніг. Але зусім не любяць абмяркоўваць праблемы творчасці. У нас праводзіцца вельмі многа конкурсаў, і амаль у кожнага маладога аўтара ёсць нейкая прэмія. Маладыя любяць падкрэсліваць, што з'яўляюцца лаўрэатамі конкурсаў.

Няшмат хто з іх займаецца сацыяльнымі праблемамі сучаснасці. Хаця і тут карціна даволі складаная. Ідзе барацьба розных кірункаў і тэндэнцый, розных разуменняў жыцця і літаратуры.

**— Наколькі актыўна распавядаюць пісьменнікі пра сацыяльныя і палітычныя перамены? Якія найбольш актуальныя праблемы раскрываюць?**

— Наша літаратура спрабуе раскрыць прычыны і сэнс таго, што адбылося ў канцы мінулага стагоддзя. Народ ужо ўсведамляе, што над ім правялі страшныя эксперыменты. І літаратура імкнецца разгадаць падкінутыя нам загадкі, убачыць, як і хто гэта здзейсніў, чаму не заўважылі небяспекі, разбуральных тэндэнцый, не прадугледзелі наступстваў. Літаратура паказвае і стомленасць, якая запаланіла грамадства. Маладыя пазбаўлены ўпэўненасці ў будучыні. І ўсё гэта можна заўважыць у найбольш яркіх творах нашых дзён.

**— Балгарская літаратура спрадвеку звязана са славянскімі. Як сёння развіваюцца перакладчыцкія стасункі?**

— Балгарская — адна з вядомых славянскіх літаратур, пры гэтым самая старажытная, паколькі вучні святых роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія паклалі аснову славянскай кнізе і літаратуры менавіта тут, у Балгарыі. Але цяпер яна сарыентавана на еўрапейскія ўзоры. Думаю, што ўжо ёсць сур'ёзныя спробы ўсвядоміць нашы славянскія карані і вярнуцца ў славянскую традыцыю. Узрастае інтарэс да рускай літаратуры. Верагодна, гэта будзе доўгі працэс, паколькі месца Балгарыі ў Еўрасаюзе прымушае нас думаць і здзяйсняць учынкі не па нашых традыцыях, не па нашым складзе розуму, а «па-еўрапейску».

**— Якое месца займае ў сучасным балгарскім кнігавыданні перакладная кніга?**

— Сёння гэта адзін з галоўных складнікаў нашай кніжнай галіны. І так было заўсёды. У нас шмат перакладалі і выдавалі замежную прозу, паэзію. Цяпер гэтая работа працягваецца. Выдатна, што нашы выдавецтвы займаюцца не толькі перакладной камерцыйнай літаратурай, але і проста добрай паэзіяй, прозай. І, што важна, перакладчыкі аказваюцца добрымі літаратарамі.

**— Ці сочыце вы асабіста за развіццём сучаснай беларускай літаратуры?**

— На вялікі жаль, не. Раней у нас выдавалася беларуская савецкая літаратура. І з таго часу я адкрыў для сябе імёны такіх пісьменнікаў, як Янка Купала, Максім Танк, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Святлана Алексіевіч, Алесь Адамовіч,

**Даведка «ЛіМа»**

Панка Анчаў — крытык, гісторык літаратуры, публіцыст, філосаф. Нарадзіўся ў 1946 г. у горадзе Варна (Балгарыя). Аўтар 17 літаратуразнаўчых, філасофскіх і гістарычных кніг. Член Саюза балгарскіх пісьменнікаў і Балгарскага ПЭН-цэнтра. Ганаровы доктар Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага. Адказны рэдактар літаратурна-мастацкага часопіса «Прасторы». Жыве ў Варне.

# Паветра павінна хапіць усім

**Літоўскага пісьменніка, галоўнага рэдактара дзіцячага часопіса «Тры зорачкі» Яронімаса Лауцюса, творы якога ўбачылі свет у розных мінскіх выдавецтвах, добра ведаюць у Беларусі. Творца — часты госць беларускіх кніжных свят. З ім гутарыць наш карэспандэнт.**



— Кожная кніга, якая напісана з душой, нясе ў сабе пэўнае выхаваўчае, эмацыянальнае ўздзеянне. Патрэбны, безумоўна, тэматычныя кнігі. Напрыклад, «Азбука бяспекі», дзе тлумачыцца, як трымаць сябе ў любой сітуацыі. І гэтая кніга была перакладзена на беларускую мову паэтам Віктарам Гардзеем. Ведаю, што тагачаснае выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» распаўсюдзіла ўвесь тыраж кнігі за лічаныя месяцы. І паўторна, па-беларуску, перавыдалі гэтую кнігу. А «Свята палаца энергетыкі»... Над гэтым творам пра альтэрнатыўную і атамную энергетыку я працаваў разам з беларускім акадэмікам Аляксандрам Міхалевічам. «Мастацкая літаратура» рэалізавала гэты творчы праект найлепшым чынам. У тым жа выдавецтве нядаўна выйшла кніга «Па слядах лясных вынаходнікаў». Разумеючы, што гэтыя выразна тэматычныя кнігі патрэбны для развіцця дзіцяці, для яго ўваходжання ў свет сур'ёзнай інфармацыі, сур'ёзнага жыцця, я працую над імі з пачуццём унутранай радасці.

**— Ці часта вы кантактуеце з юнымі чытачамі? Мабыць, вам не падабаецца тое, што сённяшнія дзеці вельмі прагматычныя?**

— Але ж не забывайцеся, што прагматызм яны бяруць ад нас, ад канкурэнцыі, тэмпаў жыцця — заканадаўцамі тут выступаюць дарослыя. І ад нас, пісьменнікаў, выдаўцоў, залежыць, як стабілізаваць падобныя працэсы, даць гуманістычную энергію. Я рады, што ў Беларусі гэтаму надаецца вялікае значэнне. Паглядзіце, як светла праводзяцца Дні пісьменства. Я некалькі гадоў запар з радасцю ўдзельнічаю ў гэтых святах творчасці, натхнення, святах Слова. Тут пашыраецца кругагляд, фарміруюцца новыя творчыя стасункі, нараджаюцца ідэі. Рады, што ўдзельнічаю ў міжнародных пісьменніцкіх «круглых сталах» у Мінску. Падчас іх работы знаёмлюся з літаратурамі іншых краін, з пісьменнікамі Еўропы, Азіі.

**— А самі дзеці падказваюць вам, што пісаць, у які бок развіваць пісьменніцкую фантазію?**

— Дзеці нараджаюцца такімі ж, як і сто, і тысячу гадоў таму. Яны чакаюць ад нас любові, дружбы, дабрыні, ведаў. Але цяпер хлопчыкі і дзяўчынкі сталеюць значна хутчэй. І надыходзіць камп'ютарная эра — віртуальнае, прагматычнае жыццё. Захаваць у душы дзяцінства — шчасце для ўсіх.

**— Апошнім часам выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» адкрыла вас як пісьменніка, што ўмее зазірнуць у хворыя людскія душы... Вы выдалі ў Мінску шэраг кніг, навеяных сустрэчамі з псіхічна нездаровымі дзецьмі... Як прыйшлі да гэтай тэмы?**

— Я пішу для дзяцей больш як дваццаць гадоў. Даўно выраслі мае першыя, другія, трэція чытачы... Потым пачаў

**— Яронімас, як так склалася, што стасункі развіваюцца менавіта з мінскімі выдавецтвамі? Беларусь аказалася бліжэй за ўсіх?**

— Першы раз я прыехаў у Мінск з кнігамі, перакладзенымі на рускую мову, амаль 25 гадоў таму. І адразу знайшоў агульную мову з беларускімі выдаўцамі. Гэтае сяброўства доўжыцца і па сёння. Маю казку «Гэта здарылася ў Цітуліі» ў 2005 годзе ілюстравалі вучні 9-й мінскай гімназіі. Кніга была выдадзена на літоўскай, беларускай і рускай мовах. Беларускую народную казку «Каваль», якую я падрыхтаваў да друку, ілюстравалі літоўскія дзеці. Яна таксама выйшла на трох мовах. З таго часу амаль пастаянна ўдзельнічаю ў кніжных кірмашах у Мінску. Сустракаюся з вашымі выдаўцамі, пісьменнікамі. Шмат з кім пасябраваў.

У 2009 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Вельмі ганаруся гэтым, і ў коле беларускіх творцаў ды выдаўцоў адчуваю сябе як дома. Радуюся, калі яны прыязджаюць у Вільнюс. Думаю, што нашы культурныя, творчыя сувязі павінны развівацца. Мы ж даўнія суседзі з агульнай гісторыяй, падобным менталітэтам. А калі і ёсць адрозненні, то яны нас толькі ўзбагачаюць, пашыраюць кругагляд.

Мае кнігі цяпер выпускаюць Выдавецкі дом «Звязда», «Мастацкая літаратура», «Чатыры чвэрці», «Пачатковая школа». Спадзяюся, яны цікавыя для беларускага чытача. А для мяне, пісьменніка, магчымасць бачыць свае лепшыя творы ў перакладзе на беларускую і рускую мовы — усведамленне таго, што кнізе дадзена новае жыццё.

**— Вы шмат працуеце як пісьменнік, які імкнецца вырашыць пэўныя выхаваўчыя і адукацыйныя задачы. Даяце дзецям урокі, як сябе паводзіць, як зрабіць сваё існаванне бяспечным, як сцвердзіць у жыцці аптымістычны пачатак. Ці з'яўляецца для вас галоўнай справай стварэнне такога кшталту кніг? Пра напісанне якога твора адукацыйнага характару вы марыце?**

Іван Чыгрынаў, Рыгор Барадулін, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі, Яўгенія Янішчыц… У нас былі выдатнага ўзроўню перакладчыкі з беларускай мовы: Найдзен Вылчаў, Андрэй Германаў, Сіміяон Уладзіміраў, Здраўка Кісеў, Іван Дойчынаў, Пырван Стэфанаў, Хрыста Папоў, якія шмат зрабілі для знаёмства нашага чытача з найцікавейшай беларускай літаратурай.

**— Дарэчы, якія сёння тыражы выданняў сучаснай балгарскай паэзіі, прозы?**

— Нашы кнігі выходзяць зусім дробнымі тыражамі. Часткова гэта і зразумела. Балгарыя — малая дзяржава, і кніжны рынак у нас не дужа вялікі. Тыраж у 500 асобнікаў лічыцца нармальным. Хаця раней для паэзіі мінімальным з'яўляўся тыраж у 1000, а для прозы — у 3000 экзэмпляраў. У нас многія аўтары самі аплачваюць выданне сваіх твораў. Так што ў Балгарыі з літаратурнай дзейнасці пражыць немагчыма.

**— Ці не згубілася ў такіх пераменах літаратурна-мастацкая крытыка?**

— У нас яе проста няма. І гэта адна з самых вялікіх праблем не толькі літаратуры, але і грамадства. Крытыка — гэта свядомасць грамадства, выяўленне яго эстэтычных густаў. Сённяшняе грамадства бездухоўнае і камерцыйнае, яно не хвалюецца з-за адсутнасці літаратурнай крытыкі. Постмадэрнізм моцна ўдарыў па крытыцы, пераўтварыўшы ўсё ў рэкламу і журналістыку. Газеты не друкуюць рэцэнзій і крытычных артыкулаў. У літаратурным выданні пісьменнікі самі пішуць рэцэнзіі на кнігі сваіх сяброў. Амаль няма моладзі, якая займалася б крытыкай.

**— Ці шмат выдаецца літаратурных часопісаў і газет? Якія ў іх тыражы?**

— Не шмат. А тыя, што выходзяць, дарогу да чытача адольваюць з вялікімі цяжкасцямі. Дзяржава не дапамагае ў вырашэнні фінансавых праблем. Патрэбна шукаць спонсараў, а гэта няпроста. Затое ў нас шмат літаратурна-мастацкіх інтэрнэт-сайтаў.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО,**
**Санкт-Пецярбург — Мінск**

---

пісаць для іх жа, але ўжо старэйшых. Мы самі часам, быццам дзеці, якія не берагуць цацкі, неасцярожна «гуляем» са сваім здароўем, асабліва з душэўным. Я зразумеў, што нам не хапае пазітыву. Пачаў пісаць кнігу пра радасці жыцця, пра творчасць душы: «Ты адзіны такі» («Чатыры чвэрці» ), «А лёс заўсёды з табою» (выдавецтва «Дом Прэсы» ).

Пасля звярнуўся да нашага, літоўскага, знакамітага ўрача-псіхатэрапеўта Аляксандра Аляксейчыка (дарэчы, ураджэнца Беларусі), і ён даў мне магчымасць наведваць пацыентаў псіхатэрапеўтычнай лякарні. Я ўжо трэці год слухаю іх гісторыі. У сваіх кнігах апісваю іх лёсы, каб паказаць людзям шлях, які верне да паўнацэннага жыцця.

Выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» пераклала і выдала гэтыя кнігі — «Дэпрэсія — мая госця», «Я развітваюся з дэпрэсіяй», «Пішу таму, што баліць», «Каму належыць свет». Я пераконваю чытачоў, што свет належыць нам усім. Нам належаць зоркі, неба, сонца. Іншая справа, што ў нас не хапае часу ўсё гэта адчуць. Не хапае не толькі часу, але і жадання. Я прапаноўваю прагноз надвор'я пачынаць з галоўнага: «Па дадзеных сіноптыкаў, паветра на заўтра хопіць усім. Дыхайце глыбока, адчыніце ўсе вокны — паветра напэўна хопіць усім». Так і Час, адведзены нам, — цэлае жыццё.

**— І напрыканцы размовы хацелася б усё ж вярнуцца да дзіцячай літаратуры. Чаго, на ваш погляд, ёй сёння нестае?**

— Цяпер занадта шмат камерцыйных кніг. Выдаўцы ў пагоні за прыбыткам паніжаюць духоўны ўзровень кніг, падмяняючы ўсё прыгодамі. Выданням надаюць большую ўвагу як тавару, а не як важнаму сродку выхавання.

Хацелася б, каб помнілі, што класіка не старэе, а толькі ўдасканальваецца, абнаўляецца. Гэта і ёсць галоўны клопат пісьменнікаў, калі яны турбуюцца пра стасункі з разумным чытачом, ды і ўвогуле спадзяюцца на развіццё разумнага грамадства.

**Гутарыў Павел АЛЬСОВЫ**

---

## Чынгіз АЛІАГЛУ



### Іграй, Раміш!

*Іграй, Раміш!*
*Забудзь пра морак*
*Пустых пракураных начэй,*
*Рукой — па струнах, і ў гуморы*
*Мы вып'ем кавы… Ну, хутчэй!*
*Сваю гітару, бы каханку,*
*Бліжэй да сэрца прытулі,*
*І будуць лётаць аж да ранку*
*Над намі ноты-матылі.*
*У россып гукаў, сад нябачны,*
*Мяне, мой дружа, правядзі.*
*А стане горка — я паплачу*
*З табою… Ты ўжо не адзін.*
*І мне знаёмы прысмак здрады.*
*Калі у вочы паглядзіш,*
*То зразумееш, гэта праўда!*

*Іграй, Раміш, іграй, Раміш…*
*Хай пальцам горача нязносна,*
*Хай спіна хіліцца на крук,*
*Ты сам струну за сэрца носіш,*
*Пануе голас твой наўкруг.*
*І можа быць, душа спявае,*
*А цела заблукала дзесь…*
*Твая гітара ажывае,*
*І за сабой мяне вядзе,*
*Калі пра іншыя сусветы*
*Ты прамаўляеш паміж нот,*
*Калі я мару цёплым ветрам*
*Каля тваіх укленчыць ног.*
*І там памерці, анямелым,*
*Як толькі ў стоме замаўчыш…*
*Адкуль жа песня прыляцела!*

*Іграй, Раміш!*
*Цнатлівых гукаў*
*З-пад прагных пальцаў не чакай.*
*Хай будзе горкаю пігулкай*
*Твая мелодыя — зайграй*
*Для тых, аглухлых і асляплых,*
*Хто дбае толькі пра майно,*
*Хто з пошасці свой кубак лепіць,*
*Каб поўніць крыўдай і маной.*
*І можа быць, пачуўшы голас*
*Гітары, што ў тваіх руках,*
*І ганарысты схіліць голаў,*
*І выпусціць сякеру кат,*
*І ў самым перасохлым сэрцы*
*Ён перунамі прагрыміць…*
*Я веру, ты не маеш смерці.*

*Іграй, іграй, іграй, Раміш!*
*Твае чароўныя напевы*
*Мяне ўздымаюць да аблок,*
*І кліча музыка наперад,*
*І вабіць прышласцю здалёк.*
*І ўжо не пастарэем мы!*

*…О ціша, выпусці з турмы.*
*Прашу цябе, забудзь пра морак*
*Пустых пракураных начэй,*
*Рукой — па струнах, і ў гуморы*
*Мы вып'ем кавы… Ну, хутчэй!*
*Іграй, Раміш…*

***

*Бывай, Паэзія! Твой час амаль мінуў.*
*Зірні, як на цябе рыхтуюць зброю*
*Табою ж праслаўлёныя героі,*
*Якія хочуць новую вайну.*
*Дзе вусце, дзе выток, Урарту дзе,*
*Дзе Мідзія, дзе ўсе краіны тыя,*
*Якім ты падарыла залатыя*
*Стагоддзі, што сышлі, нібыта дзень?*

*Тут у эфіры — крыкі і мана,*
*Нібы два статкі —*
*на крутой сцяжыне.*
*Ты гэтага хацела? Адкажы мне.*
*Няўжо ж і ў гэтым ёсць мая віна?*

*За тое, што святыні прадалі,*
*Што і жывых, і мёртвых апаганяць.*
*Яны б і ў Ноя вынайшлі заганы,*
*Каб толькі твой каўчэг на тло спаліць…*

*Тут кожны прагне ў бронзу ці граніт,*
*Тут кожны марыць*
*пра мякчэйшы ложак,*
*Паэзія… Ты сталася варожай,*
*Да ўсіх, хто выпіў ад тваіх крыніц.*

*Над вогнішчамі — развітальны шэпт,*
*Глядзі, як словы весела палаюць.*
*Бывай, Паэзія… Каханая былая,*
*Наўрад ці мы сустрэнемся яшчэ.*

***

*Я не плачу ўжо*
*па начах,*
*бо*
*высахлі мае вочы.*
*Па начах станаўлюся каменем.*
*Засынаю — бы камень сон.*

*Не смяюся ўжо*
*на світанні я —*
*сонца пабачу*
*і хачу, ды не плачу…*

*Не магу.*
*На вейках маіх —*
*Пясок.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Таццяны Сівец**

---

## Агагельды АЛАНАЗАРАЎ



### Лістапад

*Лістапад… Быццам блікі пажару,*
*Лісце жоўтае ўецца, гуляе...*
*То кладзецца ў далонь тратуара,*
*То высока ў нябёсы ўзлятае.*

*Свет змясціць яго сёння не можа.*
*Уяўляю, што лісце ўваскрэсне.*
*І трывожаць мяне, і трывожаць*
*Сумных дрэў невыразныя песні.*

*Я імкнуся за імі душою.*
*Маладосць у душы зоркай блісне.*
*Зноў убачу цябе прад сабою*
*За мігценнем бясконцага лісця.*

*А лістота шуміць, адлятае...*
*Аж да сонца ўзляцець яна рада.*
*Я чакаю цябе, я чакаю*
*Пад гарачым плашчом лістапада.*

***

*Запал ізноў выходзіць з берагоў.*
*Няхай у мора і свае парадкі, —*
*Як вызваліцца мора з кайданоў,*
*За ўсё бярэцца д'ябальскаю хваткай.*

*Разгойдвае між хваляў караблі,*
*Бурліць, у танцы кружыць без прынукі.*
*Не злуй яго! Спяшайся да зямлі!*
*У жарсці не трапляй яму пад рукі.*

*Усім здаецца — неўтаймоўны нораў!*
*Ды раптам люты нораў спахапіўся.*
*І, склаўшы рукі, прыціхае мора,*
*Як працаўнік, ад працы што стаміўся.*

***

*Дзева распранулася нясмела*
*Ля гарачых стромкіх камянёў.*
*І застыла ў прадчуванні цела*
*Сонечнай пяшчоты прамянёў.*

*А прыбою неспакойны вецер*
*Клікаў прыгажуню ў прамянях.*
*Ёсць жа прыгажосць такая ў свеце —*
*Сэрца млее соладка ў грудзях.*

*Уяўлю яе сваёю жонкай...*
*Погляд яе сціплы і жывы.*
*А яна ўжо хваляй срэбна-звонкай*
*Лашчыцца ад ног да галавы.*

*Мною авалодала жаданне*
*Мора на сябе перакуліць.*
*Так, няма мяжы майму каханню*
*Як у небе, так і на зямлі.*

### Поўнач у гарах

*Я цяснінай іду,*
*Цемра крочыць услед.*
*Я ўзыходжу вышэй, —*
*Прахалодай дыхне.*
*Ападае з вяршынь*
*Ранніх зорак святло.*
*Мне пабыць аднаму*
*Горнай поўначчу трэба.*

*Я — на грэбні гары.*
*Над прасторам сівым*
*Пранясецца, як сон,*
*Ледзьве бачная птушка.*
*Мітусня дзён былых*
*Адляцела, як дым.*
*І жывая душа*
*Прытамілася сумам.*

*Гэты сум без прычын*
*Сыдзе з ноччу ў нябыт,*
*Ды куды ад сябе*
*Гэтай поўначчу дзецца?*
*Невядомая птушка*
*Самотнай зары*
*Несціхана спявае*
*У сцішаным сэрцы.*

***

*Цэлы дзень скрыгатала. І смела*
*Заскуголіла. І не змаўкала.*
*Гэта вецер гуляў ашалела,*
*Аж лістота з галін ападала.*
*Ён падхопіць яе у паветра.*
*Ён шпурне яе на маставую...*
*Быццам гнеўная прага у ветра*
*За правіннасць адпомсціць якую!*

*Не хаваючы злосных пагрозаў*
*Ён працягваў бясконцую свару.*
*Лісце клёнаў, тапаляў, бярозаў,*
*Як чабан, ён збіраў у атару.*

*І сабраў! І пагнаў па дарозе!*
*І тады па-над вецем без лісця,*
*Над зямлёй, што замерла ў трывозе,*
*Нерухома сняжынкі павіслі.*

*І тады зразумелі мы самі,*
*Для чаго ж гэта вецер стараўся...*
*І блукаў снегапад між дамамі,*
*І на ганку збянтэжаны слаўся.*

### Фіруза

*Я чую шум чынар такі далёкі...*
*Знаёмы шум — і думак азарэнне.*
*Світальная хвіліна. І аблокі*
*Над галавой, нібыта*
*ў дзень стварэння.*

*Рассоўваецца ўсё шырэй прастор,*
*Іскрацца росы сінімі агнямі.*
*І полымем гараць вяршыні гор.*
*І цёплае святло — па-над палямі...*

*О, родная мая! О, Фіруза!*
*Ты ёсць на гэтым свеце, дзякуй богу!*
*О, Фіруза, ў вачах тваіх сляза...*
*Нічога, што мне заўтра у дарогу.*

*Святло тваіх вачэй ці ўбачу болей?*
*Апошнюю аддам табе хвіліну!*
*Няма мяне! Няма у сэрцы болю!*
*Ёсць толькі ранак... Ранак і Радзіма!*

### Туркменістан

*Мінулае тваё жыве ўва мне,*
*Твая зямная годнасць — ува мне.*
*Там грукаюць далёкіх продкаў сэрцы...*
*Іх боль, надзея, радасць — ува мне.*
*І зорка твайго лёсу — ува мне.*
*Твая зямля, вада... і слова*
*Жывуць, гучаць, трапечуцца ўва мне.*
*Што б ні было з табою — ты ўва мне.*
*Ў тваёй крыві навек я раствар‌ыўся —*
*Жыву ў табе, а ты — ўва мне.*

**З туркменскай.**
**Пераклад Рагнеда Малахоўскага**

# ПРАГРАМА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

## 6 верасня

| | г. Мінск, Нацыянальная бібліятэка Беларусі (пр-т Незалежнасці, 116) |
|---|---|
| **10.00-12.00** | Міжнародны круглы стол **«Сугучча: Літаратура як люстэрка эпохі»** з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў.<br>Прэзентацыя альманаха **«Сугучча»** |
| | **Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў (вул. Савецкая, 26)** |
| **11.00-15.00** | Навукова-практычная канферэнцыя **«Заслаўскія чытанні»** |
| | **Фестываль кнігі і прэсы (Цэнтральная плошча)** |
| **12.00-19.00** | **Павільён «Кнігі і прэса Беларусі».**<br>**Экспазіцыя кніг — пераможцаў Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі».**<br>**Праект «70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прысвячаецца…». Фотавыстаўка «Пераможцы».**<br>**«Ля вытокаў кнігавыдання». Дэманстрацыя дзеючых друкаванага станка XVI стагоддзя і афортнага станка пачатку XX стагоддзя, старажытнага спосабу вытворчасці паперы.**<br>**Прэзентацыя Біблії Францыска Скарыны, надрукаванай па старажытных тэхналогіях.**<br>**Аўтарскі праект У. Ліхадзедава, газеты «СБ. Беларусь сегодня», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» «У пошуках страчанага» — выстаўкі «Мінск. Падарожжа ў часе», «Імгненні Першай сусветнай вайны».**<br>**Сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, выдаўцамі, журналістамі, распаўсюджвальнікамі кнігі і прэсы** |
| | **Сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** |
| **12.00-19.00** | **Прэзентацыі выдавецкіх праектаў, СМІ.**<br>**Гістарычная тэатралізаваная экспазіцыя «Заслаўскі дворык»:** канцэртная праграма з удзелам ансамбляў старадаўняй музыкі, тэатральных калектываў.<br>**Праграма «Пад покрывам сівых стагоддзяў» (эпоха сярэдневякоўя):** рыцарская культура, майстар-класы па сярэдневяковых танцах.<br>**«Фальклорная вандроўка»:** выступленні фальклорных калектываў, майстар-класы па побытавых танцах.<br>**Праграма «Маладыя галасы Міншчыны».** |
| | **вул. Вялікая** |
| **12.00-19.00** | **Выстаўка «Міншчына інфармацыйная».**<br>Прэзентацыі рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі, рэгіянальных бібліятэк, друкарняў |
| | **Пляцоўка каля Храма Праабражэння Гасподняга (Гарадскі вал)** |
| **12.00-19.00** | Выстаўка-продаж праваслаўнай літаратуры |
| | **Сцэнічная пляцоўка «Літаратурнае кафэ» (вул. Савецкая)** |
| **12.00-19.00** | **«Літаратурная мазаіка»:** конкурс эпіграм, бурымэ, літаратурныя віктарыны, «адкрыты марафон» для паэтаў.<br>Маладзёжная акцыя **«Чытай па-беларуску»** — папулярызацыя творчасці беларускіх паэтаў.<br>**«Юбіляры 2014 года»** — папулярызацыя творчасці беларускіх пісьменнікаў і паэтаў-юбіляраў 2014 года.<br>**Канцэртная праграма народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца»** Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці |
| | **Дзіцячая пляцоўка «Вясёлка талентаў» (Дзіцячы парк культуры і адпачынку)** |
| **12.00-19.00** | **Свята «Чароўны свет дзяцінства»:** «Пернікавы фэст» — святочнае кірмашовае шэсце ў стылізаваных беларускіх строях. Дэманстрацыя тэматычнай сувенірнай і кулінарнай прадукцыі. «Батлейка», літаратурныя персанажы.<br>Выставачныя экспазіцыі дзіцячых бібліятэк, дзяржаўных устаноў дадатковай адукацыі, выстаўка-продаж, майстэрні.<br>**Сустрэчы з дзіцячай кнігай і прэсай.**<br>Выступленні дзіцячых калектываў.<br>Майстар-класы **«Россып талентаў»** па розных дэкаратыўна-прыкладных тэхніках.<br>Пленэр **«Расфарбуй мару».**<br>Конкурс **«Юныя таленты».**<br>Інтэрактыўная пляцоўка **«Жывая кніга».**<br>Выстаўка малюнкаў **«Новыя ілюстрацыі да старых любімых кніг».**<br>Выстаўка **«Кніга — рэліквія маёй сям'і».**<br>Канцэртная пляцоўка **«Як апець гэту зямлю»** па творах беларускіх паэтаў і празаікаў |
| | **Заслаўская сярэдняя школа № 1 (вул. Савецкая, 28)** |
| **12.00-19.00** | Выстаўка-прэзентацыя **«Беларусь: гасціннасць без межаў»** |
| | **Дом культуры «Світанак» (вул. Савецкая, 93)** |
| **12.00-19.00** | Выстаўкі **«Янка Купала і тэатр», «Якуб Колас. Жыццё і творчасць»** |
| | **Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў (вул. Савецкая, 26)** |
| **12.00-19.00** | Выстаўка **«Ад юбілею да юбілею»** |
| | **вул. Савецкая** |
| **12.00-19.00** | Выстаўка-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці **«Рамесніцкі гасцінец»** |
| | **вул. Савецкая** |
| **12.00-19.00** | Выстаўка **«Міншчына запрашае»:** аграэкатурызм, выдатныя мясціны Мінскай вобласці |
| | **Дом культуры «Світанак» (вул. Савецкая, 93)** |
| **14.00-16.00** | **Конкурс юных чытальнікаў Мінскай вобласці «Жывая класіка».**<br>**Падвядзенне вынікаў рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай!»** |
| | **Дзіцячы парк культуры і адпачынку (вул. Савецкая)** |
| **19.00-19.30** | **Адкрыццё Дзіцячага парку культуры і адпачынку** |
| | **Цэнтральная плошча** |
| **19.45-20.00** | **Адкрыццё помніка князю Ізяславу — заснавальніку горада** |
| | **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Гарадскі вал)** |
| **20.30-22.00** | **Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства.**<br>**Афіцыйная цырымонія адкрыцця свята.**<br>**Мастацка-тэатралізаваная дзея «Залатая калекцыя беларускага пісьменства»** |

## 7 верасня

| | г. Заслаўе, храм Праабражэння Гасподняга (Гарадскі вал) |
|---|---|
| **08.00-11.00** | Пасадка Сада Малітвы.<br>**Божая літургія ў храме Праабражэння Гасподняга** |
| | **Фестываль кнігі і прэсы (Цэнтральная плошча)** |
| **10.00-18.00** | **Павільён «Кнігі і прэса Беларусі».**<br>**Экспазіцыя кніг — пераможцаў Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі».**<br>**Праект «70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прысвячаецца…». Фотавыстаўка «Пераможцы».**<br>**«Ля вытокаў кнігавыдання». Дэманстрацыя дзеючых друкаванага станка XVI стагоддзя і афортнага станка пачатку XX стагоддзя, старажытнага спосабу вытворчасці паперы.**<br>**Прэзентацыя Біблії Францыска Скарыны, надрукаванай па старажытных тэхналогіях.**<br>**Аўтарскі праект У. Ліхадзедава, газеты «СБ. Беларусь сегодня», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» «У пошуках страчанага» — выстаўкі «Мінск. Падарожжа ў часе», «Імгненні Першай сусветнай вайны».**<br>**Сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, выдаўцамі, журналістамі, распаўсюджвальнікамі кнігі і прэсы** |
| | **Сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** |
| **10.00-18.00** | **Прэзентацыі выдавецкіх праектаў, СМІ.**<br>**Гістарычная тэатралізаваная экспазіцыя «Заслаўскі дворык»:** канцэртная праграма з удзелам ансамбляў старадаўняй музыкі, тэатральных калектываў.<br>**Праграма «Пад покрывам сівых стагоддзяў» (эпоха сярэдневякоўя):** рыцарская культура, майстар-класы па сярэдневяковых танцах.<br>**«Фальклорная вандроўка»:** выступленні фальклорных калектываў, майстар-класы па побытавых танцах.<br>**Праграма «Маладыя галасы Міншчыны».** |
| | **Пляцоўка каля Храма Праабражэння Гасподняга (Гарадскі вал)** |
| **10.00-18.00** | Выстаўка-продаж праваслаўнай літаратуры |
| | **Сцэнічная пляцоўка «Літаратурнае кафэ» (вул. Савецкая)** |
| **10.00-18.00** | **«Літаратурная мазаіка»:** конкурс эпіграм, бурымэ, літаратурныя віктарыны, «адкрыты марафон» для паэтаў.<br>Маладзёжная акцыя **«Чытай па-беларуску»** — папулярызацыя творчасці беларускіх паэтаў.<br>**«Юбіляры 2014 года»** — папулярызацыя творчасці беларускіх пісьменнікаў і паэтаў-юбіляраў 2014 года.<br>**Канцэртная праграма народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца»** Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці |
| | **Дзіцячая пляцоўка «Вясёлка талентаў» (Дзіцячы парк культуры і адпачынку)** |
| **10.00-18.00** | **Свята «Чароўны свет дзяцінства»:** «Пернікавы фэст» — святочнае кірмашовае шэсце ў стылізаваных беларускіх строях. Дэманстрацыя тэматычнай сувенірнай і кулінарнай прадукцыі. «Батлейка», літаратурныя персанажы. Выставачныя экспазіцыі дзіцячых бібліятэк, дзяржаўных устаноў дадатковай адукацыі, выстаўка-продаж, майстэрні.<br>**Сустрэчы з дзіцячай кнігай і прэсай.**<br>Выступленні дзіцячых калектываў.<br>Майстар-класы **«Россып талентаў»** па розных дэкаратыўна-прыкладных тэхніках.<br>Пленэр **«Расфарбуй мару».**<br>Конкурс **«Юныя таленты».**<br>Інтэрактыўная пляцоўка **«Жывая кніга».**<br>Выстаўка малюнкаў **«Новыя ілюстрацыі да старых любімых кніг».**<br>Выстаўка **«Кніга — рэліквія маёй сям'і».**<br>Канцэртная пляцоўка **«Як апець гэту зямлю»** па творах беларускіх паэтаў і празаікаў |
| | **Заслаўская сярэдняя школа № 1 (вул. Савецкая, 28)** |
| **10.00-18.00** | Выстаўка-прэзентацыя **«Беларусь: гасціннасць без межаў»** |
| | **Дом культуры «Світанак» (вул. Савецкая, 93)** |
| **10.00-18.00** | Выстаўкі **«Янка Купала і тэатр», «Якуб Колас. Жыццё і творчасць»** |
| | **Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў (вул. Савецкая, 26)** |
| **10.00-18.00** | Выстаўка **«Ад юбілею да юбілею»** |
| | **вул. Савецкая** |
| **10.00-18.00** | Выстаўка-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці **«Рамесніцкі гасцінец»** |
| | **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Гарадскі вал)** |
| **12.00-13.20** | **Ушанаванне пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор года** |
| | **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Гарадскі вал)** |
| **13.30-14.30** | **Тэатралізаваная прэзентацыя «Вяртанне святыняў»** |
| | **Галоўная сцэнічная пляцоўка (Гарадскі вал)** |
| **16.00-18.00** | **Урачыстае закрыццё Дня беларускага пісьменства.**<br>**Цырымонія перадачы эстафеты свята.**<br>**Канцэрт** |
| | **Сцэнічная пляцоўка (Цэнтральная плошча)** |
| **20.00-22.00** | Дыска-акцыя **«ДАНС БАТЛейка»** |

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2620.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 04.09.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3720.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

14035
ISSN 0024-4686